# бярозка

№11

№ 11/2016(1062)
ISSN 0320-7579

КАЛІ НІЧОГА, АКРАМЯ МАР

ШТО ХАВАЮЦЬ СТАРЫЯ КНІГІ

ГРЭЦЫЯ РЫГОРА СІТНІЦЫ

# Здраўнёва

**Музей-сядзіба Ільі Рэпіна пад Віцебскам прадстаўляе**



«Дом сумны, — пісаў Рэпін пра набытую ў 1892 годзе пад Віцебскам сядзібу. — Яго б хутчэй перабудаваць, ды страшна…» Дом мастак перабудаваў, але пасля ён быў яшчэ некалькі разоў разбураны. Цяпер, калі яго ўзнавілі, ён сам па сабе экспанат. Злева ад галоўнага ўвахода — стары склеп, адзіная аўтэнтычная пабудова. «Ваш пакорны слуга, — піша Рэпін у адным з лістоў, — знаходзіць сабе ўцеху ў тым, што сячэ камень для склепа».





Парцэлянавая філіжанка з надпісам «День ангела», знойдзеная падчас будаўніцтва і склееная з аскепкаў, кавалак курыльнай люлькі, два дыванкі і карункавая сурвэтка — гэтыя прадметы ў музеі дакладна памятаюць Ілью Рэпіна.





Сцены ў сталовай некалі былі распісаны відамі трапічных краін і мясцовымі пейзажамі, а філёнгі на дзвярах упрыгожвалі птушкі сірыны. Цяпер сцены белыя, як гэты абрус. Сталовыя прыборы адпачываюць на арыгінальных металічных «лавачках», кампотніца выхваляецца кучаравістымі лілеямі, чорная лакіраваная скрыня «ў птушкі» памятае пах гарбаты, ваза для цукерак з круглай ручкай чакае, каб іх, цукеркі, атрымаць…





У пакоях вось так — утульна.

**Дзе гэта можна ўбачыць: Віцебскі раён. Выезд з Віцебска па вуліцы Гагарына ў бок населенага пункта Руба. Пасля моста цераз Заходнюю Дзвіну — паварот направа.**

# Пра маральныя выспяткі



Кацярына Захарэвіч

«Я схуднела», — з сумам піша мне і так даволі стройная сяброўка.

«А я не», — набіраю адказ, дадаючы лірычнае шматкроп’е, папіваючы салодкую каву з малаком, за якую яшчэ паўхвіліны таму зусім не было сорамна. На нейкую долю секунды захацелася не адказваць, пакрыўдзіцца, віртуальна накрычаць на сяброўку за тое, што ў яе лёгка атрымліваецца тое, што не даецца мне, а яна яшчэ скардзіцца.

Другая сяброўка расказвае мне сюжэты сваіх ненапісаных апавяданняў. Сюжэты, варта адзначыць, заблытаныя і захапляльныя. А я якраз у гэты самы момант сяджу і зусім не ведаю, пра што напісаць калонку ў «Бярозку». І зноў хочацца біцца галавой аб сценку, зайздросціць чорнай зайздрасцю і іншымі спосабамі ўсяляк пакутаваць, пакуль не адновіцца гэта хісткая раўнавага.

Гэта зразумела і натуральна — варожа ўспрымаць тое, што прыносіць боль, робіць слабымі і ўразлівымі. Пазбягаць страхаў, а не сустракаць іх у поўнай баявой гатоўнасці, хай сабе каленкі крыху падрыгваюць. Адкладаць важныя праблемы на якое-небудзь «потым», пазбягаць людзей і сітуацый, якія наводзяць на разважанні аб уласнай малазначнасці і нядзольнасці.

Апошняе, дарэчы, — мой любімы занятак. Ну вось дрэнна робіцца мне, калі даводзіцца кантактаваць (ды што там, проста назіраць) з людзьмі, больш таленавітымі, разумнымі, паспяховымі ў нечым важным для мяне. І хочацца сесці ў кутку, падціснуўшы ногі, апусціць галаву, заплюшчыць вочы і закрыць вушы, каб усіх гэтых цудоўных людзей не бачыць, не чуць і пакрыцца тут пылам.

А потым надакучвае. Вось шчыра, надакучвае дыхаць пылам, які тхне ад вечнага спакою ўласнага куточка. Калі ўвесь час хаваць галаву ў пясок, у адзін цудоўны дзень можна патануць у ім цалкам. Тым больш, што ад самага страшнага — ад сваіх думак, свайго сумлення — пясок не схавае. Ужо калі страус галавой у пясок тыкаецца, яго толькі зручней штурхаць.

Паціраючы выцятае нейкай неасцярожнай нагой пачуццё, думаць лепш не пра тое, як яго часова абязболіць, а як наступныя выспяткі (а яны абавязкова будуць) сустракаць. Таму прывучаю сябе глядзець на любое ўзрушэнне як на цудоўнае выратаванне ад спакою, у якім, калі ён пастаянны, нічога добрага няма. Таму ўстаю з канапы і пачынаю прысядаць, прадумваючы калонку.



Марына Шантыр

# Адлегласць — нішто

Чым старэйшай я станаўлюся, тым менш сяброў застаецца побач. Сваркі, спрэчкі, саперніцтва... Але ведаеце, што мае сябры любяць больш за ўсё? З’язджаць. Ды як мага далей! І надоўга! Марафон «збегчы з краіны» пачаўся, калі мне было чатырнаццаць. Тады мой сябар з’ехаў у Нямеччыну. Быў ды сплыў! Нашы зносіны ледзь трымаліся і клятве амаль пяць месяцаў. Вінаваціць акалічнасці — глупства. Паставім самае любімае і балючае пытанне: хто вінаваты?

Зараз я раскажу гісторыю, а вы вырашыце. Яна здаралася са мною тры разы з трыма рознымі людзьмі, якія з’ехалі ў тры розныя гарады. Спосаб камунікацыі заўсёды быў адзін і той жа: сацыяльныя сеткі. На працягу дня мы абменьваліся кароткімі паведамленнямі, давалі справаздачу аб кожным сваім дзеянні. Сапраўды, першы час, знаходзячыся на адлегласці, мне хацелася пісаць сябру 24 гадзіны ў суткі: устала, паела, убачыла матылька, даслала фотаздымак матылька, іду ў краму, сумую. Гэта спачатку... А потым я перастала бачыць вострую неабходнасць у такой колькасці месенджараў, стамілася. І мой суразмоўца таксама. Дамовіліся адзін раз на тыдзень спісвацца, падводзіць вынікі. Карацей кажучы, зносіны пайшлі на спад. Мы аддаліліся адзін ад аднаго, і аддаленасць гэтая не ў кіламетрах вымяралася. У рэшце рэшт, усё, што нам засталося, — віншаваць адзін аднаго са святамі (з сябрам з Германіі ўжо нават такое не практыкуем). І вось парадокс: прывыкнуць да «адсутнасці зносін» прасцей, чым прывыкаць да пастаяннай, дваццацічатырохгадзіннай камунікацыі. Так, мы з маімі былымі сябрамі прывыклі да першага.

І хто вінаваты? Безумоўна, акалічнасці, людзі і магчымасці нашкодзілі гэтаму свету. Але немагчыма даць адказ на гэтае пытанне. Якая розніца, каго або што мы абвінавацім, калі сяброўству гэта не дапаможа? Па-першае, варта задумацца аб цвёрдасці такога сяброўства, якое вадой не разальеш. Па-другое, не даваць абяцанняў і клятваў: чым больш чакаеш, тым больш балюча падаць.

Ёсць у гэтым усім нешта падбадзёрвальнае. Бывае, у самай працяглай разлуцы людзі становяцца яшчэ бліжэй, чым раней.

Наогул, адлегласць — нішто, калі свеціць адна зорка! Можа, мне і маім сябрам не пашанцавала, і такой зоркі не было. Атрымліваецца, што сяброўства — гэта латарэя. Спадзяюся, вам пашанцуе.

# Што ў канверце?



Марыя Шчыпанава







Калекцыянаванне аўтографаў знакамітасцей існавала і раней, але папулярным стала нядаўна. Яго кваліфікуюць як хобі, накшталт бук- або посткросінгу. Аднак ёсць людзі, якія займаюцца гэтым дзеля прыбытку. Дарэчы, з-за такіх людзей знакаміты Хаяа Міядзакі, аўтар анімэ «Тоторо» і «Знесеныя прывідамі» больш не дае аўтографаў.

Узяць аўтограф асабіста — атрымаць незабыўныя ўспаміны. Фанаты пільнуюць сваіх улюбёнцаў з надзеяй атрымаць запаветны росчырк маркерам… Калі няма магчымасці падпільнаваць і сфатаграфавацца, а не тое што папрасіць аўтограф, можна напісаць ліст. Зоркам важна ведаць, што іх працу шануюць не толькі фанаты.

Раней было цяжка знайсці ў інтэрнэце адрасы знакамітасцей, цяпер жа для гэтага існуюць сайты і нават суполкі «УКантакце». Адміністрацыя вельмі падрабязна тлумачыць навічкам, як напісаць ліст, выбраць фатаграфію і канверты. Нават не проста прадастаўляюць адрасы, але і паведамляюць, адказвае адрасат ці не. Але не без цяжкасцей...

Ёсць знакамітасці, якія не толькі падпісваюць фатаграфіі, але і пішуць у адказ невялічкі ліст. Ёсць тыя, хто адказвае толькі пры наяўнасці зваротных марак. А здабыць у Беларусі, напрыклад, брытанскую марку — складана. Іншыя дасылаюць ужо раздрукаванае фота з подпісам ці фота, падпісанае машынкай. Горш за ўсё, калі за акцёра падпісваецца сакратар. Гэта нават вызначыць няпроста. Некаторыя аўтографы можна атрымаць, зрабіўшы запыт на сайце.

Калекцыянаванне аўтографаў — цэлая навука. І тут ужо не важна, каму вы пішаце — знакамітаму акцёру ці каралеве Брытаніі — галоўнае мець адрас і напісаць ліст, здольны расчуліць адрасата. Нельга абяцаць, што гэта будзе менавіта ваша хобі, але адштурхоўваючыся ад свайго досведу, магу сказаць, што, калі вы пачняце займацца такім калекцыянаваннем, адкажаце на галоўнае пытанне: чаму атрымаць аўтограф ад знакамітасці натхняе больш, чым атрымаць паштоўку ад незнаёмага чалавека па посткросінгу?

# Калі нічога, акрамя мар



**Аляксандра Бутар — рэжысёр і сцэнарыстка, заснавальніца і выкладчыца кінашколы «Тэрыторыя кіно». Мы сустрэліся з ёй у светлай зале школы, дзе штотыдзень хтосьці набліжаецца да цікавых роляў, незвычайных гісторый, складанай працы і доўгачаканых узнагарод. Аляксандра падзялілася, як ажыццяўляла мроі і як дапамагае з імі іншым, як здымала і пра што яшчэ здыме фільмы, і што трэба зрабіць, каб у гісторыю на экране верылі не толькі гледачы, але і акцёры.**

— Я жыла ў Заслаўі, тады яшчэ зусім маленькім горадзе, дзе не было ні кінатэатраў, ні студый — нічога. Таму мы забаўлялі сябе самі: ладзілі дварамі лялечныя тэатры, гулялі ў нашы любімыя фільмы. Захапленне кіно пайшло адтуль: у цябе ёсць свой свет, і ты яго расфарбоўваеш. У нас нічога не было, акрамя мар, і было класна.

Калі мне споўнілася пятнаццаць, я ўжо жыла ў Мінску, займалася ў тэатральнай студыі, удзельнічала ў спектаклях як акцёрка. І адчула, што мне гэта не вельмі цікава. Паспрабавала сама паставіць урывак з казкі Андэрсена і зразумела, што больш падабаецца гісторыі расказваць, чым іграць у іх ролю. Потым я стала марыць пра паступленне ва Усерасійскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Ва ўсіх была паніка, бо для гэтага мне трэба было з’язджаць у Маскву, а ніхто не хацеў адпускаць. Ніхто не верыў, што паступлю. Я паехала, канешне, не паступіла, бо мне было васямнаццаць, а туды ішлі людзі нашмат старэйшыя. У наступным годзе прайшла ў Беларускую дзяржаўную акадэмію мастацтваў на спецыяльнасць «рэжысура тэлебачання». У гэта таксама ніхто не верыў.

**— Ці спраўдзіліся вашы чаканні?**

— Так, спраўдзілася амаль усё, пра што я марыла. Пачала з кліпаў — стварала ў межах песні невялікія гісторыі. Некаторыя потым пыталіся, з якога фільма гэтая нарэзка, бо выглядалі кліпы як трэйлеры. Потым былі мюзіклы «Паўлінка-NEW» і «Батлейка» на АНТ. Я зразумела, што мне не хапае вопыту і ведаў у рабоце



з прафесійнымі акцёрамі. Тады яшчэ раз паступіла ў Акадэмію, ужо на рэжысуру мастацкага кіно, правучылася яшчэ пяць гадоў на дзённым аддзяленні. Хацелася трапіць у вялікае кіно, а гэта складана без адпаведнага дыплома. Пасля выпуску зняла два фільмы: «Белыя росы. Вяртанне» і «Салодкае развітанне Веры». Адчуваю, што ў кіно я паспрабавала ўсё, што пакуль хацелася, таму, калі буду здымаць наступную карціну, то яўна не цяпер, а тады, калі засумую па гэтым, і калі знойдзецца адурэнная тэма, якая мяне ўсхвалюе.

**— Якія тэмы прыярытэтныя для вас у кіно?**

— Тэма сям'і, таму што ў мяне вельмі рана яе не стала, я ўсё жыццё імкнуся пабудаваць сваё «гняздо». У «Белых росах» гучыць тэма гнязда, вяртання дадому людзей, якія рассыпаліся па розных кутках і забыліся, што яны родныя, павінны саграваць адно аднаго. У «Салодкім развітанні Веры» тэма адзіноты. Часам мы самі сябе выракаем на яе з-за сваіх комплексаў, нерашучасці, нізкай самаацэнкі — самі сабе ствараем праблемы. «Вера…» пра тое, што трэба ад гэтага ўсяго адмежавацца і дазволіць сабе быць шчаслівымі.

Тэма, якая мяне хвалюе, — тэма вайны. Той, якая адбываецца ўнутры, калі ўсе адно аднаму ворагі. Быў час, калі людзі не зачынялі дзверы сваіх хат ці пакідалі суседзям ключы. А цяпер мы ад усіх закрытыя і ў кожным бачым ворага. Ну і канешне — вайна ў прамым сэнсе. Мы жывём мірна, але ўвесь час недзе нешта адбываецца, усё такое нетрывалае.

**— Што трэба ведаць, перш чым рашыцца звязацца з кіно?**

— Як і ў любой прафесіі, калі ты не ўкладаеш сілы ў работу, нічога не атрымаецца. На занятках з вучняў сходзіць сем патоў: работа над сваім майстэрствам — гэта цяжкая фізічная праца. І рэпетыцыі, і працэс здымак — як мінімум восем гадзін змена, якую трэба вытрымаць: дысцыплінавана чакаць свайго выхаду ў кадр, потым чакаць, пакуль на цябе наладзіцца камера, пакідаючы ў баку пабочныя дзеянні. Тыя, хто прыходзіць у школу, павінны разумець, што прыходзяць сюды «сырымі». Працэс пазнання тут доўгі, усё адразу не атрымаецца.

У нас ёсць дзяўчынка, якая не раз паступала ў Маскву, у нашу Акадэмію — яе нідзе не бралі. Аднойчы мы запыталіся: «Калі табе скажуць, што ты ніколі не будзеш артысткай, што ты будзеш рабіць?» А яна кажа: «Спачатку ўпаду ў роспач, паплачу, пасля ў мяне будзе дэпрэсія, а потым я стану акцёркай». Я гляджу на яе, разумею, што гэта балюча, — прыняць, што цябе не ацанілі, але ў яе ўнутры такі

характар, што яна яшчэ дваццаць разоў пойдзе спрабаваць і паступіць. Калі-небудзь сусвет усё адно табе скажа: «Ну добра, на табе, калі так хочаш».

І ёсць дзяўчына, якая прыйшла на курсы, бо ўсё жыццё марыла стаць акцёркай, але ніколі не адважвалася. Блізкія казалі ёй, што яна не паступіць, а яна іх слухалася. Вось яна прапусціла ўзрост, у якім бяруць на акцёрскае, але гэтая мара, нерэалізаванасць сядзіць у ёй. Яна ўсё намагаецца ўдзельнічаць у конкурсах, хадзіць на кастынгі — вы ўяўляеце, які жах! А такая мілая, таленавітая, глядзіш на яе і думаеш: «Ну чаму не хапіла характару?»

**— Як рыхтавацца да кіно?**

— Калі бацькі да мяне прыходзяць запісваць дзяцей, я папярэджваю: будзьце гатовыя да таго, што гэта не тэатральны гурток: мы не будзем тут іграць зайчыкаў і лісічак. Яны будуць вучыцца прафесіі, як вучацца ў Акадэміі, толькі праграма, адпаведна ўзросту, больш лёгкая. Яны будуць вучыцца арганізаванасці, натуральнасці перад камерай. Тым, хто хоча ў кіно, я б параіла займацца мастацтвам — музыкай, маляваннем — сапраўднай творчасцю. І чытаць кнігі! Творчыя прафесіі прадугледжваюць культурную напоўненасць, бо акцёру з гледачом трэба пра нешта размаўляць, а калі акцёр пусты, то адкуль што ўзяць?

**— Якое, па вашым меркаванні, кіно будучыні — калі грунтавацца на патэнцыяле вашых вучняў?**

— Фільм — такая рэч: выйшаў і ўжо састарэў, бо за ім будуць іншыя, лепшыя. Цяпер так развіваюцца гаджэты, што кіно можа здымаць любы чалавек у сябе дома. Таму я не ведаю, што будзе далей, — можа чалавек будзе сядзець, а ў яго ўвесь пакой — кінатэатр 5D ці 7D. Справа ў тым, каб сутнасць гэтага мастацтва захавалася: кіно як расказванне гісторый — захапляльных, класных. І не важна, на тэлефон яны знятыя ці на камеру. Калі ёсць за чым сачыць, за каго перажываць — гэта кіно. Добра расказаныя гісторыі будуць заўсёды, таму што гэта ідзе ад самага пачатку існавання чалавецтва: мы вельмі хочам слухаць гісторыі, перажываць за кагосьці, спачуваць, разам пераадольваць перашкоды — у гэтым сутнасць кіно. Калі няма сэнсу, то ніякія спецэфекты і грошы не выратуюць.

**— Што вам найбольш падабаецца ў здымачным працэсе?**

— Маё любімае — ляпіць з артыстаў сваіх персанажаў, калі яны ператвараюцца ў тых, каго ты прыдумляеш, і жывуць іх жыццём. Гэта вельмі складана, я прыйшла да гэтага не адразу. Для маіх студэнтаў гэта было самае страшнае — як працаваць з акцёрамі, ставіць ім задачы. Як была студэнткай, таксама баялася працаваць з артыстамі: мне здавалася, што я нічога не ведаю, нічога не ўмею. А цяпер зразумела: чым больш чалавека лічаць зоркай, тым больш ён прафесійны.

Каб вучні не думалі, што ў мяне ўсё адразу лёгка атрымлівалася, прыводжу прыкладам мой першы зняты праект — гэта быў жах! Напісалі сцэнарый, зрабілі раскадроўку, нібыта ўсё зразумела, а потым я прыязджаю на пляцоўку і проста ўпадаю ў кому — не ведаю, што рабіць. Усё, што я падрыхтавала, быццам не працуе, бо немагчыма сарыентавацца, куды паставіць камеру, куды — акцёраў. Памятаю, што аператар уключыў камеру і стаў здымаць усё, што адбываецца, «з рук». І потым на іспыце нам казалі: «О, які ход, ручная камера!», а мы проста не

ведалі, што здымаць. Нам паставілі па 5 балаў. Ніхто не здагадаўся пра наш «правал». Усё прыходзіць з практыкай: трапляеш на пляцоўку і ўжо дакладна ведаеш, дзе хто павінен стаяць і што рабіць.

**— Напэўна, ёсць акцёры, з якімі хацелася б папрацаваць?**

— Ёсць, але з імі я яшчэ папрацую. Я магу сказаць, што папрацавала з тымі, з кім хацела. Вельмі хацелася з Андрэем Мярзлікіным пазнаёміцца, гэта быў мой любімы артыст з маладых расійскіх акцёраў. Я думала, што «Беларусьфільм» не дазволіць яго запрасіць у «Белыя росы», бо гэта адзін з самых дарагіх акцёраў. Да таго ж, гэта расійская зорка, а ў нас у першую чаргу аддаюць перавагу сваім артыстам, і калі я задумала яго запрасіць, то па ўсіх параметрах гэта не павінна было атрымацца, але і Андрэй пагадзіўся, і студыя дазволіла. Зараз мы з ім сябруем. Я неяк сказала, што ў мяне няма больш любімага акцёра, у мяне запыталіся: «Ён што, дрэнны?» Не, проста цяпер ён мой сябар.

Папрацавала з Юозасам Будрайцісам — акцёрам, у захапленні якім прайшло маё дзяцінства. І з ім таксама пасябравалі. Ёсць яшчэ вельмі клёвыя беларускія акцёры, з якімі хочацца папрацаваць.

**— Ствараючы кінашколу, ці ставілі вы нейкую глабальную мэту?**

— Я вельмі хачу ўласную кінастудыю. Маленькую, у якой будзе выгадаваная здымачная група, сабраная свая акцёрская база. У нас вучыцца дзве групы вучняў. Малодшая — у асноўным 6—9 гадоў, старэйшая — ад 15 да 27 гадоў. У гэтым годзе два акцёры і адзін рэжысёр паступілі ў Інстытут культуры, Каледж мастацтваў і Акадэмію мастацтваў. Старэйшыя ў асноўным прыходзяць з жаданнем паступаць, нацэленыя на кіно сур'ёзна.

Стараюся даваць як мага больш практыкі — акцёры ў мяне і здымаліся, і выходзілі на сцэну, малыя дзеці працавалі, як дарослыя артысты. Што датычыцца рэжысуры кіно, то ў нас быў год заняткаў, але нам яго не хапіла. Я заўсёды кажу, што гэта толькі першыя крокі, я толькі даю асновы прафесіі, якой вучацца ўсё жыццё.

**— Наколькі работа з дзецьмі адрозніваецца ад работы з дарослымі?**

— У мяне была дыпломная работа падчас атрымання другой адукацыі, дзе здымаліся пяцігадовыя дзеці. Усе мне казалі: «Гэта ж так складана, працаваць з дзецьмі, трэба, напэўна, поўныя кішэні цукерак насіць, каб іх матываваць». Атрымліваецца нейкая дрэсіроўка. Я працавала з дзецьмі як з дарослымі артыстамі. І яны ўсё разумелі нават лепш.

Я здымала гісторыю паводле Брэдберы пра адзінокую бабулю, якая ў душы — дзіця. Яна сябруе з дзецьмі, але яны не могуць адно аднаго зразумець, бо яна дарослая, мудрая жанчына, а ім хочацца дурэць. І вось яна ім расказвае, што яна таксама была маленькай, у яе была мама, а потым яна памерла, жанчына засталася адна. Потым, калі я сказала «стоп», адна з дзяўчынак падышла да сваёй мамы і сказала: «Давай забяром яе да нас жыць». Яны разумеюць, што гэта — гульня, але ў пэўны момант вераць. А калі ты пачынаеш з дзецьмі заігрываць, яны адчуваюць гэта.

Гутарыла Кацярына Захарэвіч

# На жаль і «ах»

Ад сусветнага кінапракату мы чакаем шмат чаго, але не ўсе фільмы апраўдваюць чаканні. Аб пяці галоўных расчараваннях гэта года чытайце ў ТОП-е, прыведзеным ніжэй. Але хачу нагадаць, што катэгорыі «добра» і «дрэнна» вельмі суб’ектыўныя, таму рэйтынг зусім не з’яўляецца заклікам байкатаваць гэтыя карціны.




**1.** **«Вялікі і добры велікан»**
**Жанр:** **фэнтэзі, прыгодніцкі фільм**
**Краіна:** **ЗША**
**Рэжысёр:** **Стывен Спілберг**

Калі «правал» папярэдняй анімацыі можна было прадказаць загадзя, то ад Спілберга промаху ніхто не чакаў. «Вялікі і добры велікан» — карціна, напоўненая камп’ютарнай графікай, у першую чаргу арыентаваная на дзяцей. Незнарок выйшла так, што глыбокія «сэнсы» гэтай анімацыі малодшай аўдыторыі былі не зусім зразумелыя. А мне, як прадстаўніку больш старэйшых гледачоў, перашкаджала прымітыўная мова герояў. Вядома, добрая дзяўчынка-сіротка і велікан, якога ўсе гналі, выклікаюць прыхільнасць да сябе, але гэта менш чым палова поспеху. Можна зрабіць выснову, што часам нават добры сюжэт, таленавіты рэжысёр і мноства спецэфектаў не гарантуюць поспех карціне. Калі адно з звёнаў ланцуга падводзіць — ён губляе якасць.

**2.** **«Дэдпул»**
**Жанр:** **фэнтэзі, кінафантастыка**
**Краіна:** **ЗША**
**Рэжысёр:** **Цім Мілер**



На першы погляд, «Дэдпул» здаецца чарговым фільмам пра супергероя, але ўсё ж фабула ў карціны не самая банальная. Галоўны герой не мае жадання выратаваць усё чалавецтва, ім кіруюць іншыя пачуцці — каханне і жаданне помсціць. Ён ахвяра злоснага лекара і зусім не хоча адрозніваццца ад астатніх. У стужкі было дастаткова задаткаў для таго, каб лічыцца добрай: нядрэнны, хоць і банальны, сюжэт, любоўная лінія і вялікі бюджэт, але рэалізацыя далёка не ўсім прыйшлася даспадобы. Нецэнзурная лексіка і вульгарныя жарты павялічылі ўзроставы цэнз і адсеялі з ліку гледачоў «інтэлектуалаў».

**3. «Свецкае жыццё»**
**Жанр: драма, рамантычны фільм**
**Краіна: ЗША**
**Рэжысёр: Вудзі Ален**



«Свецкае жыццё» — фільм аб простым хлопцы, любові і непакорлівым Лос-Анджэлесе. Юны Бобі прыязджае да свайго дзядзькі-прадзюсара ў Галівуд у пошуках работы і прызнання, але вельмі хутка разумее, што гэты горад не для яго. А вось пасія дзядзькі герою не спадабалася. Я лічу, што ў няўдачы карціны вінаватыя дзве рэчы: занадта вялікая колькасць сюжэтных ліній, якія не заўсёды цалкам раскрываліся, і жудасная гульня Крыстэн Сцюарт. Цікава, што цудоўная Блэйк Лайвлі, якую мы ведаем па шматлікіх ролях выдатных жанчын, у гэтай стужцы выканала толькі ролю другога плана.



**4. «Чорная імша»**
**Жанр: драма, крымінал, біяграфія**
**Краіна: Вялікабрытанія, ЗША**
**Рэжысёр: Скот Купер**

Калі рэжысёр абвясціў аб тым, што плануе ўзнавіць гісторыю Уайці Балджэра на экране, фільм стаў ледзь не самым чаканым. А калі ўсе даведаліся, што галоўную ролю выканае Джоні Дэп, у поспеху гэтай стужкі ўжо ніхто не сумняваўся. Аднак стваральнікам удалося зрабіць немагчымае і расчараваць гледачоў. Фільм атрымаўся нудным і зацягнутым. Гісторыя Балджэра і яго банды нават у Вікіпедыі выглядае цікавей, чым у экранізацыі Скота Купера. Дэп, як заўсёды, быў на вышыні, уласна кажучы, толькі яго акцёрскія магчымасці і былі адзначаны большасцю крытыкаў.

Яна Мусвідас

Аўтар рубрыкі Ліна Багданава

# Пачатак — канец свету?



Жыццё ляцела да чорцікаў! Няўдалыя спаборніцтвы, рэйтынг у кампаніі аднагодкаў ніжэй крытычнай адзнакі. Ды яшчэ за някуплены хлеб перапала.

Улад спрабаваў аналізаваць свае правалы…

Атрымлівалася так сабе, нічога сур’ёзнага. Па ўсім выходзілі вінаватымі дурныя дзіцячыя страхі. Пачаліся яны яшчэ ў пачатковай школе. З-за трапяткога чакання чалавецтвам канца свету.

— Ма, а якім ён будзе? — нясмела дапытваў у маці малы, спрабуючы хоць бы аддалена ўявіць будучую мега-катастрофу. — Мы што, адразу памром? Усе, да адзінага? Ці будзем пакутаваць? Ці што...

Сусветная трагедыя малявалася цудоўнымі белымі маланкамі і хмарачосамі, якія падаюць, уяўлялася, што горад накрывае цунамі і адбываецца вывяржэнне гіганцкіх вулканаў. Больш нічога талковага ў галаву не ішло — шаблоны-жахосцікі, якія ён ўпотай бачыў праз няшчыльна зачыненыя дзверы дзіцячага пакоя познімі зімовымі вечарамі (у той час тата любіў глядзець фантастычныя баевікі).

— Нас заб’юць? Ці мы памром самі? Вірусы? Смяротныя хваробы? Нашэсце ядавітых кузурак?

— Усё будзе працей і больш сумна, — усміхалася маці. — Адключыцца электраэнергія, наступіць вечная ноч (прынамсі, так кажуць), і мы памром ад голаду і холаду.

Улад спрабаваў знайсці выйсце і вылучаў адну за адной наіўныя гіпотэзы чалавечага збаўлення. Але тут у дыялог умешваўся тата, і стратэгіі выратавальніка рассыпаліся ў пыл. У рэшце рэшт хлопчык замкнуўся ў сабе і асуджана чакаў таго самага канца. Адмаўляўся ад сустрэч з сябрамі і разнастайных забаў ды шпацыраў.

Галоўнай у магчымай трагедыі з’яўлялася ўласная смерць. Памерці ў дзяцінстве — не, на такое ён не падпісваўся! І хай не канец свету, а нешта зусім даступ-

нае, штодзённае і таму яшчэ больш крыўднае, — не істотна. І значыць, трэба было быць вельмі асцярожным літаральна на кожным кроку.

Спачатку Улад навучыўся хаваць боязь цемры і замкнёнай прасторы ад бацькоў і сяброў, гнаў ад сябе ўспаміны пра магчымую катастрофу, потым пераключыўся на больш рэальныя рэчы: злачынцаў, аварыі, прыродныя бедствы.

З цягам часу яго жыццё ператварылася ў суцэльны камяк трывожных чаканняў, калейдаскоп наступстваў, бед і небяспекі. Улад стаў дрэнна спаць, з падазрэннем ставіўся да ўчынкаў навакольных і жыццёвых з'яў.

Вечна занятая мама заўважыла яго напружанасць не адразу. Некалькі разоў заводзіла з сынам размовы на хвалюючую тэму. Запісала Улада на прафілактычны курс да псіхатэрапеўта.

— Я не псіх! — абурыўся той. І ад візіту да лекара адмовіўся катэгарычна.

— Ну, і сядзі насупам у замкнёным пакоі, — пакрыўдзілася маці. — Ты ў мяне не маленькі, цацкацца позна. Увогуле, рабі, як ведаеш. Калі перадумаеш, паведамі.

Улад яшчэ больш замкнуўся ў сабе. Стараўся разабрацца ў сваіх бедах самастойна. Пачаў вывучаць рэкамендацыі лекараў у інтэрнэце. Спрабаваў іх прытрымлівацца. Выходзіла не вельмі. Калі наогул выходзіла. Ён стаў нервовым, няўважлівым, недаверлівым. Адсюль і ўсе непрыемнасці. Канец свету набліжаўся няўмольна і хутка. І хай ён не меў глабальных маштабаў, а датычыўся аднаго-адзінюткага, не занадта шчаслівага падлетка, — Уладу ад таго было не лепш.

**Шкодная вучылка:**

— Віншую! Наглядзеўся жахосцікаў, з глузду з'ехаў! Пра рэжым забыўся. А яго разумныя людзі прыдумалі. Мы павінны адпачываць. І фільмы глядзець адпаведна ўзросту. Пераключыся на вучобу або спорт — і часу на глупствы не застанецца. Ды і да ўрача не пашкодзіць схадзіць, бо аднаму ўжо не справіцца. З бацькамі падзяліся, напружанне спадзе. Хоць бацькам цяпер не да дзіцячых страхаў. Так, тэрмінова збіраю бацькоўскі сход і запрашаю таго псіхатэрапеўта!

**Сімпатулька:**

— Як я цябе разумею! Сама цемры да жаху баюся, а ў цябе страхі куды больш сур'ёзныя. Хочаш, разам будзем у школу хадзіць і на вечарынкі? Ты мяне падтрымаеш, я цябе. Разам весялей са страхамі змагацца. Не так страшна. Асабіста я стараюся не паддавацца песімізму, вучуся бачыць ва ўсім пазітыў. Ды і не веру я ў канец свету — гэта жахосцікі для ўражлівых людзей са слабымі нервамі. Хоць я і сама ўражлівая. Як з гэтым змагацца?

Чуў пра пазітыўную псіхалогію? Вартая справа! Вось і зрабі акцэнт на радасцях жыцця. Памерці мы заўсёды паспеем, тут падрыхтоўка не патрэбна. Але па мне, калі і паміраць, то ад радасці. Не замыкайся у сабе, будзь на сувязі!

**Прасунуты старшакласнік:**

— Чым далей у лес... Увогуле, твае страхі пераспелі, брат. Але выхад ёсць. Не смакуй свае комплексы ў ганарлівай адзіноце, тэлефануй на ўсе трубкі! Са-

ромеешся? Тады самы час звярнуцца да вышэйзгаданага псіхатэрапеўта. Там прыём вядзецца ананімна. Прыйшоў, выклаў усё, акрыяў.

Ты не хворы? А як жа пункцік з нагоды канца свету? Ды ён у цябе увайшоў у хранічны рэжым.

Толькі уяві, жыццё імчыцца — спартыўныя перамогі, шыкоўныя аўто, цудоўныя фільмы-карціны-мелодыі, прыгожыя дзяўчаты, модныя прыкіды, разнастайныя прысмакі, яркія і глыбокія пачуцці, эмоцыі і ўражанні. А ты сядзіш пад шчыльным покрывам і прапускаеш усё гэта па ўласнай, хай і не добрай, волі.

Прачніся, брат. Канец свету адмяняецца! Вярніся ў сваю эпоху. Атрымай асалоду ад свайго ўзросту, адкрый для сябе новыя магчымасці, знайдзі новых сяброў, можа і старых вернеш. Свет вакол варты гэтага, павер маім словам.

Так, калісьці нас не стане — аксіёма чалавечага жыцця, вось толькі не трэба прысвойваць ёй нумар адзін. Будзь удзячны — каму заўгодна — Богу, маме з татам, лёсу — за кожны пражыты дзень. За сонца і дождж за акном, за лета і зіму, за дзень і ноч. За ўсмешкі і слёзы, за перамогі і вопыт паражэння. За тое, што пражытае і што трэба будзе пережыць. Жыві ярка, упэўнена. Напоўні сваё жыццё альтэрнатывай маркоце і трывозе. І не забывайся пра элементарныя правілы бяспекі, але ў меру. Плюс выкананне парад лекараў. Ну і як табе мой рэцэпцік? Можа, не ўсё так проста, але надзейна. Жыві сто гадоў! А мы будзем побач.

**Вопытны псіхолаг:**

— У цэлым, я згодна з меркаваннямі тваіх аднагодкаў, тваю праблему можна вырашыць. Неабходна звярнуцца па дапамогу да дарослых. У тым ліку і да спецыялістаў. Калі пусціць свае трывогі на самацёк, справа можа абярнуцца хваробай. Не буду ўскладняць дыялог адмысловымі тэрмінамі, але генералізаваны сіндром страху смерці адносіцца да групы трывожных расстройстваў. Паступова эпізадычныя трывогі трансфармуюцца ў некантралюемы і дакучлівы страх, фобію, якія складана паддаюцца лячэнню.

Часцяком прычынай расстройства з'яўляецца, як у тваім выпадку, глыбокае ўздзеянне на псіхіку негатыўнай інфармацыі. Небяспека ў тым, што чалавек пачынае баяцца пастаянна і абсалютна неабгрунтавана. Жыццё губляе каштоўнасць і сэнс. На гэтым этапе, пакуль твае страхі не перараслі ў хваробу, можа дапамагчы толькі спецыяліст. Інакш будзе крызіс — за адзінотай і дэпрэсіяй прыйдуць інфармацыйная дэзынтэграцыя і збоі функцыянальных сістэм, патрэба ў алкаголі або наркотыках. Не варта эксперыментаваць на сабе. І не варта баяцца візіту да лекара, бо калі ў нас баліць горла, мы ідзём да тэрапеўта, калі спіна — наведваем хірурга або неўрапатолага.

І яшчэ. Практычна кожны чалавек мае страх перад смерцю. Рэакцыі і эмоцыі, якія ўзнікаюць пры сустрэчы з рэальнай пагрозай, — норма і неабходнасць нашай бяспекі.

Упэўнена, з дапамогай спецыяліста ты справішся з праблемай і вернешся да нармальнага жыцця. Адчуеш яго каштоўнасць і шматграннасць. Дзейнічай, перамажы сябе! А канец свету сапраўды адмяняецца. Нам і з святлом жывецца нядрэнна, ці не так?

# Госцьь



Машка прыйшла дадому засмучаная: тройка па алгебры, і гэта ў сярэдзіне другой чвэрці!

Адкрыла дзверы, прыслухалася. На кухні шумела вада, і грымелі рондалі. Так і ёсць: мама ўжо дома, зараз прыйдзецца даказваць, якія несправядлівыя бываюць настаўнікі, калі задаюць пасля вакацый складаныя кантрольныя!

Тлумачыць не хацелася. Карыстаючыся момантам, што маці занятая на кухні, Машка прашмыгнула ў ванную і залезла пад душ. Калі на цябе льецца вада і салодка пахне абрыкосавым гелем, непрыемнасці здаюцца такімі нязначнымі!..

Машка дамылася, закруціла кран і пацягнулася па ручнік. Эх! Ну, трэба ж! А ручніка няма! Ну, добра, хай будзе, што будзе:

— Ма-ам! Падай ручнік, калі ласка! Дзверы прыадчыніліся, Машка схапіла прасунуты ў шчыліну ручнік:

— Дзякуй, мамусь!

На шчасце, маці адразу сышла, не чакаючы падзякі. З непрыемнай размовай можна было яшчэ крыху пачакаць. Машка ціхенька шмыгнула ў свой пакой і прыстроіліся да камп'ютара. Хацелася адцягнуцца, пагуляць у якое-небудзь немудрагелістае глупства. Камп бадзёра ўключыўся, па экране пабеглі настройкі. Раптам дзяўчынка ціха войкнула: на рабочым стале адкрылася вельмі дзіўная застаўка. Замест звыклага кошыка з кацянятамі на экране была фатаграфія іх калідора, які вядзе ў ванны пакой. А таксама бледная бязротая істота з вачыма-западзінамі, яна доўгай худою рукою працягвала ў дзвярную шчыліну той самы ручнік, які ўсё яшчэ быў наматаны на мокрую Машкіну галаву!

Дзяўчынка здрыганулася. Што гэта, матулін жарт? Не падобна на яе. Ды і як бы яна паспела, калі ўвесь час грукатала на кухні рондалямі? А зараз? Быццам бы не грукоча ...

— Ма-ам?

Цішыня. Па спіне пабеглі мурашкі. Машка, заміраючы ад трывогі, рушыла ў напрамку кухні.

Божа! Што тут магло адбыцца ?! Кухня была літаральна перавернутая дагары нагамі! Па падлозе валяліся разадраныя прадукты, патанаючы ў лужынках з халадзільніка, які пацёк. Дзверцы яго валяліся побач, каля чорнай ад сажы пліты. Аскепкі талерак перамяшаліся з кавалкамі разбітага акна. Абгарэлым сцягам матлялася ад ветру парэзаная фіранка…

Маці, вядома, не было ў кухні.

Зазваніў тэлефон. Машка здрыганулася ад нечаканасці, але ўсё ж прымусіла сябе зняць трубку.

— Дачуша, гэта я! — пачуўся мамін голас на тым канцы проваду. — Затрымаюся сёння, не забудзься схадзіць у краму. Што ў школе?

— Матуля! — усхліпнула Маша. — У мяне тройка па алгебры!

— Як, тройка?! — завялася маці.— Ну, пачакай у мяне, хутка прыеду, разбяруся! — Так, так, прыязджай хутчэй! — закрычала Маша, а матуля кінула слухаўку.

Дзяўчынка вярнулася ў свой пакой. Уключаны камп'ютар мірна гудзеў. На рабочым стале красаваўся кошык з кацянятамі. Машка нейкі час здзіўлена разглядала карцінку, а потым пацягнулася па мышку і націснула «завяршыць праграму». Кацяняты зніклі. Але, перш чым экран канчаткова патух, на сінім фоне праступіў злавесны выраз: «Я ЯШЧЭ ЗАЗІРНУ ДА ЦЯБЕ!»

Прывід Аркаша

# Віншуем пераможцаў конкурсу!




У 8-м нумары «Бярозкі» былі змешчаны ўмовы конкурсу «Туркменістан вачамі беларускіх дзяцей», які наш часопіс абвясціў сумесна з Пасольствам Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь і «Выдавецкім домам «Звязда». Конкурс гэты быў прымеркаваны да галоўнага дзяржаўнага свята Туркменістана — Дня Незалежнасці, якое штогод адзначаецца 27 кастрычніка. Сёлета свята гэтае — юбілейнае: Туркменістан адзначае 25-годдзе з дня абвяшчэння сваёй незалежнасці.

Амаль два месяцы на пошту «Выдавецкага дома «Звязда» прыходзілі творчыя работы. Сярод іх — малюнкі, прысвечаныя Туркменістану, і невялікія празаічныя творы на розныя тэмы. Няпроста было журы вызначыць пераможцаў.

12 кастрычніка ў мінскай Цэнтральнай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылося ўрачыстае мерапрыемства, прысвечанае дружбе нашых краін: Туркменістана і Беларусі. Шмат цікавага чакала тут усіх прысутных, якія атрымалі рэдкую магчымасць «дакрануцца» да багатых нацыянальных традыцый Туркменістана: паслухаць вершы класіка туркменскай літаратуры Махтумкулі, ацаніць майстэрскае выкананне старадаўняга танца «Куштдэпдзі», нацешыцца гукамі экзатычнага музычнага інструмента дутар. Кульмінацыяй стала абвяшчэнне вынікаў конкурсу «Туркменістан вачамі беларускіх дзяцей».

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Туркменістана ў Рэспубліцы Беларусь Назаркулы Шакулыевіч Шакулыеў, намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» — галоўны рэдактар часопіса «Нёман» Аляксей Іванавіч Чарота і намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Бярозка» Генадзь Пятровіч Аўласенка падзякавалі юным удзельнікам за цікавасць да мінулага і сучаснага жыцця Туркменістана, павіншавалі пераможцаў і ўручылі ім дыпломы і падарункі.

Вось імёны пераможцаў конкурсу:

**Катэгорыя «Дзеці ад 6 да 10 гадоў»**

- **1 месца** — Арлова Аліна Вітальеўна (СШ № 218 г. Мінска);
- **2 месца** — Башкірцаў Арцём Сяргеевіч (СШ № 1 г. Полацка);
- **3 месца** — Бурак Ілья Дзмітрыевіч (СШ № 49 г. Мінска);

**Катэгорыя «Дзеці ад 11 да 15 гадоў»**

- **1 месца** — Вялічка Юлія Андрэеўна (СШ № 1 г. Фаніпаля);
- **2 месца** — Загарэльская Вераніка Ігараўна (СШ № 1 г. Фаніпаля);
- **3 месца** — Мальчэўская Анастасія Дзмітрыеўна (СШ № 1 г. Фаніпаля);

**Спецыяльная намінацыя «За актыўны ўдзел і крэатыўны падыход»**

- Шкляр Марыя Андрэеўна (Бігосаўская СШ Верхнядзвінскага раёна).

Прапануем малюнкі і апавяданне пераможцаў конкурсу.

## Бірузовая пасылка

Мне падабаецца посткросінг. Люблю кнігі і часопісы, збіраю розныя паштоўкі. Мяне немагчыма ўтрымаць ад новенькіх выданняў, ад іх паху. Здаецца, гэта маё жыццё. І я не гуляю ў футбол і камп'ютарныя гульні, як усе хлопчыкі майго ўзросту, я — іншы. Магчыма, менавіта з гэтай прычыны сяброў у мяне мала. Але я заўсёды быў упэўнены: чалавек хоць калі, але абавязкова знойдзе свайго лепшага сябра. І, як высветлілася, я не памыліўся, вось што адбылося са мной летась…



Арлова Аліна

Я ішоў дамоў пасля заняткаў у літаратурным клубе. Нікуды не спяшаўся, таму што канікулы, лета. Навошта спяшацца, калі можна проста адпачыць, прагульваючыся. Але тут мае думкі перабіў чыйсьці голас:

— Кастусь! — Я павярнуўся і ўбачыў аднакласніка Толіка. — Ты чаго так пляцешся?

— А ты куды так ляціш? — у тон яму адказаў я. — На самалёт спазняешся?

Нейкі час Толік здзіўлена глядзеў на мяне, потым засмяяўся.

— Не, я ў краму, мама прасіла маргарыну купіць для шарлоткі. А потым трэба яшчэ на пошту забегчы. Хадзем разам, калі нікуды не спяшаешся.

— Хадзем, — згадзіўся я. — У мяне ж посткросінг.



Арлова Аліна



Бурак Ілья



Башкірцаў Арцём

На пошце мы адразу ж заняліся кожны сваёй справай: Толік пачаў афармляць падпіску на свой любімы часопіс, а я зазірнуў у сваю паштовую скрыню. Ура! Доўгачаканая паштоўка з далёкай краіны!

Дрыжачымі пальцамі асцярожна выцягнуў лісток і… прачытаў надпіс: «Паведамленне». Шкада! Я так чакаў сваёй паштоўкі, а тут нейкае паведамленне. Усе мае мары ў адно імгненне… эх… Але ж цікава паглядзець, што ж там за пісьмо такое вялікае мне даслалі?

Я запоўніў бланк, і мне выдалі вялікую пасылку бірузовага колеру. Прыемна, але ж які гэта посткросінг? Посткросінг — гэта паштоўкі, а не бандэролі! І ад каго ж гэта мне, цікава?

У гэты час падышоў Толік.

— Ого! — усклікнуў ён. — Вось гэта посткросінг! Не тое, што паштоўкі нейкія…

— Ды я і не ведаю, ад каго гэта мне, — шчыра прызнаўся я. — Чакай, тут напісана: «Сямёнавай Людміле Рыгораўне ад Галіулінай Фірузы». Але ж я не Сямёнава Людміла і ніякай Фірузы не ведаю! Памылка нейкай выйшла…

— Але ж адрас твой — паглядзі! — тыцнуў пальцам Толік.

— Адрас мой, — вымушаны быў згадзіцца я, задуменна разглядваючы пасылку. — Цікава, чаму яна такога дзіўнага колеру? І нават стужка бірузовая зверху. Пэўна ж, дзяўчынка завязвала…

— А мне больш цікава: што ўнутры, — сказаў Толік. — Ведаеш, так і хочацца паглядзець…

— Толькі не тут! Хадзем да мяне, там распакуем.



Вялічка Юлія



Загарэльская Вераніка

Праз пятнаццаць хвілін мы з Толікам сядзелі на канапе і разглядвалі змест пасылкі. Цікавыя там аказаліся рэчы: прыгожыя магніцікі, паштоўкі і фотаздымкі з выявай Туркменістана (гэта мы зразумелі па зваротным адрасе). Светлыя плошчы, незвычайныя будынкі, падлеткі ў маляўнічым адзенні, якія танцуюць проста на вуліцы, — мы разглядвалі ўсё гэта з разяўленымі ратамі. А потым знайшлі паштовы ліст, які і вярнуў нас да рэчаіснасці.

«Добры дзень, дарагая бабуля!..» — прачытаў я і хуценька адклаў ліст.

— Чытай, чаго ты! — пхнуў мяне ў бок Толік. — Цікава ж!

— Гэта адрасавана не мне! — сказаў я. — А чужое чытаць нельга! Дарэчы, і ўсю гэтую прыгажосць таксама трэба вярнуць… Толькі вось куды?

Толік задумаўся на імгненне.

— А ведаеш, — сказаў ён, — ты вось што… сам напішы гэтай Фірузе. Тут табе і посткросінг будзе, а заадно і даведаешся, дзе шукаць гэтую Людмілу Рыгораўну!

— А што, гэта ідэя! — усклікнуў я. — Ты геній, Толік!

— Ды пішы ўжо! — задаволена ўсміхнуўся Толік.

І я пачаў пісаць.

*«Прывітанне, Фіруза!*

*Піша табе не Сямёнава Людміла Рыгораўна, а беларускі хлопчык Ляпіцкі Кастусь. Твая пасылка, на жаль, не патрапіла да Людмілы Рыгораўны, а патрапіла да мяне. Проста ты адрас пераблытала.*

*Прашу прабачэння, але мне стала цікава і я разгарнуў пасылку. Такія прыгожыя сувеніры, такая цудоўная краіна! Мне нават сорамна крыху зрабілася, што я амаль нічога пра яе не ведаю. Але, на мой погляд, Беларусь і Туркменістан чымсьці падобныя: невялікія, але ўтульныя для жыцця і вельмі цікавыя краіны.*

*А зараз крышачку аб сабе. Мне трынаццаць гадоў, я перайшоў у восьмы клас. Люблю чытаць, наведваю літаратурны гурток, гуляю ў валейбол. Яшчэ захапляюся посткросінгам.*

*Вельмі хацелася б адшукаць Людмілу Рыгораўну і вярнуць ёй пасылку.*

*З нецярпеннем буду чакаць адказу!*

*Кастусь»*

Раніцай наступнага дня я адправіў пісьмо Фірузе. А потым чакаў, чакаў, чакаў… Дні нібыта расцягнуліся на месяцы, а тыдні — на гады. Чакаць заўжды складана, здаецца, што час здзекуецца з цябе…



Мальчэўская Анастасія



Шкляр Марыя

Амаль праз месяц я атрымаў доўгачаканы адказ.

З пошты мы з Толікам беглі шчаслівыя. Ад нецярпення я ўскрыў канверт проста на вуліцы.

— Ого! — сказала мама, калі мы ўбеглі ў кватэру. — Ужо адказала? Так хутка?

— Месяц — гэта хутка? — здзівіўся я.

— Ну так, — паціснула плячамі мама. — Туркменістан ад нас даволі далёка. Ажно за Каспійскім морам.

— Ды тут і фотаздымак! — усклікнуў Толік. — Але давай спачатку пісьмо прачытаем.

І мы пачалі чытаць.

*«Прывітанне, Кастусь!*

*Дзякуй за твой ліст. Я — Фіруза. Мне чатырнаццаць гадоў. Жыву ў сталіцы нашай цудоўнай краіны — Ашхабадзе. Дасылаю табе некалькі паштовак з выявамі мячэці Туркменбашы Рухы і мячэці Азадзі. Мая пасылка была бірузовага колеру, таму што імя маё перакладаецца, як "біруза". Я вельмі хацела зрабіць сюрпрыз сваёй бабулі з Беларусі, з якой мы даўно не бачыліся. Але пераблытала адрасы. Я, як і ты, захапляюся літаратурай і сама патрошку пішу, у асноўным, казкі. А яшчэ перапрацоўваю нашы легенды. Люблю наведвацца да маёй другой бабулі Вольгі, якая жыве ў пасёлку Парахат Марыйскага велаята. Там, за пасёлкам, вялікае макавае поле. У нас ёсць традыцыя — фатаграфавацца кожны май на гэтым полі.*

*Мая бабуля Вольга родам з Беларусі. З бабуляй Людмілай яны родныя сёстры.*

*Ведаеш, мне заўсёды хацелася мець сяброў з іншых краін. Давай перапісвацца!*

*Сувеніры пакінь сабе на памяць. Запрашаю да сябе і буду з нецярпеннем чакаць твайго адказу!*

*Да сустрэчы. Фіруза Галіуліна»*

Такое вось незвычайнае знаёмства падарыла мне сяброўку. І ў час гэтых канікул я абавязкова пабываю ў Туркменістане.

Марыя Шкляр,
7 клас, Бігосаўская СШ, Верхнядзвінскі раён

# Атмасфера ў творы

Шаноўны юны аўтар!

Пэўна ж, ты заўважаў, што сустракаюцца ў мастацкія творы акрамя апісанняў дзеянняў, дыялогаў яшчэ і апісанні наваколля: ці пра гушчар лясны аўтар напіша, ці пра раку, ці пра сонца, ці пра мароз… Прызнайся: ты, захоплены сюжэтам, хутчэй-хутчэй прачытваў гэтыя старонкі, каб зноў апынуцца ў гушчыні падзей. І задаваў сабе пытанне: ну навошта аўтар перапыніў дзею ды так расцягнута піша пра тое, як цвіце каліна ці выспявае рабіна? Няўжо без гэтага нельга?

Ведаеш, дружа, нельга.

Давай паглядзім на тое ў жыцці. Для пачатку запішам невялічкі урывак: «Кацярына вярталася са школы не ў гуморы. У кватэры яна, як толькі распранулася, залезла на канапу, схавалася пад коўдру, уключыла тэлевізар, але не глядзела на экран, а думала пра тое, якім несправядлівым бывае жыццё».

Здаецца, усё зразумела. Але. Давай паглядзім на твой сённяшні дзень. Што ў ім паўплывала на твой настрой? Надвор’е? Ну, канешне! Яно часам псуе настрой, а бывае — наадварот. Цябе мог напужаць бадзяжны сабака, а можа, ты сустрэў маленькага коціка? А хіба ты не звярнуў увагу на тое, якой была дарога? Уся засланая прыгажэнным лісцем ці прыцярушаная іскрыстым снегам? Ці, можа, мокрая і гразкая, коўзкая і небяспечная?

Так, мой дружа, гэта толькі асобныя моманты, якія уплываюць на твой унутраны стан. Чалавек жыве не толькі сярод людзей, але і ў прыродзе. І з’явы яе ўплываюць на яго настрой. Вось прыкра з-за нейкага канфлікту, а выйшаў на вуліцу — там сонейка, там бела-бела ад чысцюткага снегу, які так рыпіць пад нагамі! Дык трошкі і весялей!

Вось і атрымліваецца: часам прырода сугучная з нашым настроем, часам — дапамагае нам пераадолець нейкі крызіс сваім хараством.

Кожны аўтар імкнецца да таго, каб чытач не проста зразумеў сюжэт, уразіўся дзеяй, пасмяяўся над дыялогамі, але і адчуў дакладна настрой герояў, іх унутраны стан. Каб мы, чытаючы, ведалі: вось тут герою няўтульна, тут яму хораша, светла, тут трывожна, тут страшна, тут радасна. І калі такое атрымліваецца, тады мы кажам пра існаванне ў творы сваёй атмасферы.

Канешне, можна проста сказаць: яму было няўтульна. Але гэты факт чытач мо і прыме да ўвагі, але яму самому так не стане! А не стане, дык і забудзе, што там з героем. Вось у чым фокус: ствараючы атмасферу твора, аўтар зацягвае чытача ў свой аповед, і тады мы не проста перажываем за героя, а адчуваем тое ж, што і ён.

Гэта адно. А з другога боку, скарыстоўваючы пэўныя з’явы прыроды, акаляючую прастору ўвогуле, аўтар можа больш глыбока раскрыць характар чалавека, момант яго напружання ці шчасця, пэўны перыяд жыцця. Хіба плынь ракі не наводзіць на думкі пра жыццё чалавека? Мінаюцца беззваротна, праўда ж, дні нашы, што вада ў рацэ. А квітнеючая вішанька і дзяўчына пад ёй — тут і хараство і, на жаль, кароткачасовасць юначага цвіцення.

Давай вернемся да нашага невялічкага кавалка пра Кацярынку, якая вяртаецца са школы. У яе сумны настрой? Восень? Няхай тое адчуе чытач, як няўтульна дзяўчынцы: «Дробны дождж не падаў кроплямі, а вісеў у паветры, і вецер шпурляў той мокры пыл у твар, халадзіў шыю, залазіў у кішэні, якія і так сталі вохкімі ад вільгаці. На тратуары не было мінакоў, вуліцай праносіліся аўтамабілі, узнімаючы мокрыя злыя віхуры. Мабыць жа, у салонах машын цёпла і суха, людзі прыедуць у цёплыя дамы,

дзе ў некага распалены камін будзе кідаць водбліскі агню на засцеленую мяккім тоўстым дыванам падлогу… Кацярына, адзін раз пабачыўшы камін у суседзяў па лецішчы, марыла, што ў яе некалі будзе такі. Няма каміна, няма сухога і цёплага дома — ёсць кватэра, халодная, бо яшчэ не уключылі ацяпленне. Кацярына адамкнула дзверы, скінула брудныя красоўкі, павесіла на кручок мокрую куртку. Пераапранулася, нацягнула на ногі тоўстыя шарсцяныя шкарпэткі, забілася ў куточак, пстрыкнула пультам тэлевізара. Чаму так, думала яна: чаму некаму цёпла і ўтульна, а іншаму — азалець ад холаду, чаму некаму ўся ўвага, а іншым суджана быць фонам?»

Канешне, кавалак стаў большым. Мабыць, некаму падумаецца, і груваcткім. Але ж наша мэта — паказаць, як цяжка юнай душы, пакрыўджанай несправядліва. Мы гэта зрабілі? Калі так — то і ты старайся рабіць свой твор атмасферным!

Дзядзька Кузьма

*Добры дзень, «Бярозка»!*

*Некалькі дзён таму настаўніца беларускай мовы і літаратуры Ганна Лявонцьеўна паказала мне работы вучняў 5 класа. У падручніку «Беларуская мова, 5 клас, частка 1» было заданне напісаць працяг казачкі пра Апостраф і Мяккі знак, і вучні з задавальненнем узяліся за гэтую працу. Некаторыя з працягаў мне так спадабаліся, што я вырашыла даслаць іх.*

**З павагай, Ліза Карчэня**

Ведаеш, Ліза, рэдакцыі «Бярозкі» гэтыя працягі казкі таксама вельмі спадабаліся, і мы вырашылі надрукаваць іх. Пачатак казкі з падручніка:

## Апостраф і Мяккі знак

*Ёсць на свеце краіна Фанетыка. Жывуць у ёй Гукі і Літары.*

*Аднойчы Гукі і Літары заспрачаліся.*

*Галосныя крычалі, што толькі яны сапраўдныя. Зычныя трымаліся сваёй думкі. Мяккія маўчалі. У іх не было сталага меркавання. А глухія… Тыя нікога не хацелі слухаць. На Мяккі знак і Апостраф увогуле ніхто не зважаў. Ці ёсць вы, ці няма вас — ніякай розніцы. Вы нічога не значыце.*

*Пакрыўдзіліся Апостраф і Мяккі знак…*

**На гэтым казка ў падручніку абрываецца. Ніжэй — тры заканчэнні, якія прыдумалі пяцікласнікі дзясятай мінскай гімназіі.**

…і пайшлі з краіны Фанетыка шукаць лепшай долі.

У краіне Фанетыка наступіла раніца, але не такая спакойная і звычайная, як заўсёды. На галоўнай плошчы, каля палаца каралевы Фанетыцыі, сабралася шмат людзей. Усе яны нешта гучна расказвалі адзін аднаму, занепакоена кагосьці шукалі і чакалі, калі на балкон палаца выйдзе каралева.

Нарэшце паказалася Фанетыцыя ў акружэнні каралеўскай світы.

— Што здарылася, паважаныя? — спытала людзей каралева. — Да гэтага часу мае верныя літары і гукі верай і праўдай служылі вам.

— Здарылася нешта страшнае, — адказалі людзі. — Амаль палова слоў, якія мы выкарыстоўваем у сваёй мове, за адну ноч ператварыліся ў бязглуздзіцу. Было *маленькі,* а стала *маленкі, лье* ператварылася у *ле.* А некаторыя словы ўвогуле змянілі сваё значэнне: *столь* ператварылася ў *стол, мель* — у *мел.*

— А паслухайце нашы словы, — незадаволена загудзелі другія, — *Бе, пе, падём, зем.* Раней зычныя гучалі цвёрда перад е, ё, ю, я. Што здарылася?

У гэты момант усе гукі, якія жылі ў краіне Фанетыка, усё зразумелі і іх твары сталі чырванець ад сораму. Здагадалася і каралева. У гэты момант наперад выйшла маленькая літара *с* (толькі ў яе хапіла смеласці, бо слова *смелы* пачынаецца менавіта з яе) і расказала, як гукі і літары пакрыўдзілі Апостраф і Мяккі знак.

У той жа момант каралева паслала сваіх верных памагатых па Апостраф і Мяккі знак. Кожны жыхар чароўнай краіны Фанетыкі папрасіў у іх прабачэння, бо ўсе зразумелі, што Апостраф і Мяккі знак выконваюць сваю важную ролю, і замяніць іх ніхто не можа. Мяккі знак дапамагае зычным гукам стаць мяккімі, дзе гэта не могуць зрабіць літары е, ё, ю, я, і. Апостраф раздзяляе зычны і галосны, але робіць гэта па-свойму.

З таго часу ў краіне Фанетыка усталяваўся мір. Усе гукі і літары пасябравалі і больш не спрачаліся. А словы, якія ўтвараліся з іх дапамогай, былі правільныя. Калі, канечне, які-небудзь гора-вучань не рабіў у іх памылку. Але гэта зусім іншая гісторыя.

Ягор Цішкевіч

…і вырашылі збегчы з краіны Фанетыка. Але вельмі хутка Гукі і Літары пашкадавалі, што не звярталі на іх увагу, пакрыўдзілі. Так здарылася, што, калі зніклі Апостраф і Мяккі знак, то вераб'і раптам забылі як лётаць, а надвор'е стала дрэнным. Мядзведзь больш не хацеў есці маліну і спаць у густым ельніку. Ды і не стала больш мядзведзя і ельніку, а засталіся нейкія незразумелыя «мядзведз» і «елнік».

Спужаліся тады астатнія літары. Зразумелі, што нельга ім адно без аднаго. А як зразумелі гэта, пайшлі прасіць у Апострафа і Мяккага знака прабачэння.

Варвара Арлова

— Чаму гэта мы нічога не значым? — абурыўся Мяккі знак.

— «Ці ёсць вы, ці няма вас — ніякай розніцы», — пакрыўджана паўтарыў Апостраф.

Вось так хадзілі Апостраф і Мяккі знак, пакуль не ўбачылі таблічку:

«Запрашаем усіх паказаць свой талент!»

Вырашылі Апостраф і Мяккі знак паказаць, што яны шмат значаць. Яны дамовіліся з некалькімі літарамі, што тыя ім дапамогуць…

І вось дзень выступлення. Выйшлі на сцэну Апостраф, Мяккі знак і некалькі Літар — атрымалася слова *аб'язджаць.* У гэтым слове ёсць і апостраф, і мяккі знак.

— Я, — пачаў Апостраф, — раздзяляю літары «б» і «я». Без мяне было б *абязджаць.*

— А я, — прадоўжыў Мяккі знак, — стаю ў канцы слова. Без мяне было б аб'язджац.

Усе заапладзіравалі і вырашылі, што Мяккі знак і Апостраф усё-такі шмат значаць.

Анастасія Плашчанская

# Беларускі Дастаеўскі і яго «Млечны Шлях»

**З раманам Кузьмы Чорнага «Млечны Шлях» я пазнаёмілася падчас вучобы ва ўніверсітэце. Чытаючы яго, я захаплялася глыбінёй думак аўтара, філасофскім падыходам да стварэння вобразаў, дэталёвасцю эпізодаў. Мне «Млечны Шлях» нагадваў творы Дастаеўскага, якімі ў юнацтве зачытвалася. Пазней я даведалася, што яшчэ ў 1920-я гады літаратурная крытыка прадказвала Кузьме Чорнаму будучыню «беларускага Дастаеўскага».**

Лепшыя творы Кузьмы Чорнага былі створаны ім у вайну. Гэта раманы «Вялікі дзень» (1941—1944), «Пошукі будучыні» (1943), «Млечны Шлях» (1944). Доўгі час яны не друкаваліся, заставаліся ў рукапісах.

Апошні раман пісьменніка «Млечны Шлях» быў завершаны 12 студзеня 1944 года, калі да смерці аўтара заставаўся амаль год. Прынята лічыць, што ў канцы жыцця пісьменнік стварае самыя грандыёзныя рэчы, у якіх выказвае глыбіню адчуванняў, падсумоўвае досвед і перадае свой пагляд на жыццё — не толькі ўласнае, але і цывілізацыі, на лёс чалавецтва, на месца краіны ў свеце.

Чаму наш Дастаеўскі назваў свой раман «Млечны Шлях»? У яго атрымаўся незвычайны вобраз бясконцага шляху, які крытыкі бачаць па-рознаму: для адных ён метафара мірнага часу, для другіх — кахання або матчынай пяшчоты. Але можа, і нешта іншае?

Чаму менавіта Млечны Шлях узяў аўтар за сімвал да свайго твора, чаму не проста неабдымнае зорнае неба? Давайце звернемся да старажытных міфаў. Што ёсць Млечны Шлях паводле аднаго з іх? Малако, якое пырснула з грудзей Геры. Яна ўбачыла, што дзіця, якое яна карміла, не яе ўласнае — гэта пазашлюбнае дзіця Зеўса (Геракл), народжанае ад зямной жанчыны. Гера адштурхнула дзіця, вось малако і вылілася на неба і стала зорным шляхам. З аднаго боку, сувязь дзіцяці і маці. На працягу твора героі гавораць пра гэтую злучнасць: маці Уладзіміра Ярмаліцкага і яго імкненне да роднай хаты; каханая жонка Сямагі — маці яго дачкі. Дзяўчынка Ганулся марыць пра малако, памятаеце? Гэта ж не проста так. Мо для таго, каб перадаць, што яна адчувае разарваную сувязь з маці, якая загінула? А можа, і нешта іншае?..

Гэта можа быць помста мачыхі няродным дзецям. А вы, дарагія, не думалі, што пісьменнік мог апеляваць тут да амаральнасці, крывавага шляху вайны, прыгнечанасці людзей — усяго таго, да чаго прывялі палітычныя акалічнасці, дыктатура ў краіне? На самай справе ўсім людзям патрэбна ў жыцці адно і тое: людзі — блізкія і дарагія, неба — мірнае і…«зоры як усведамленне нейкіх вышэйшых мэт чалавечага існавання».

Млечны Шлях злучае поўнач і поўдзень, паводле арыйскай міфалогіі гэта Дарога Птушак, бачная з розных куткоў свету. І глядзелі на яго і ў Беларусі, і ў Германіі. Можна было б меркаваць, што пісьменнік ставіць краіну на скрыжаванне,

дзе сустракаюцца прадстаўнікі розных нацыянальнасцяў. Падзеі, што апісваюцца ў творы, маглі адбыцца не абавязкова ў Беларусі. Заўважце, спачатку краіна ў творы не згадваецца, а героі — безыменныя, акрэслены толькі іх знешнія рысы.

Увогуле, увесь гэты твор Кузьмы Чорнага насычаны сімваламі, якія хочацца разбіраць па цаглінцы — каб дайсці нарэшце, да падмурка і даведацца, што хацеў сказаць аўтар. Мы ведаем, што творы Дастаеўскага трэба тлумачыць, абапіраючыся на сімвалы. Так і з творамі Кузьмы Чорнага: што ні персанаж ці месца дзеяння — усё, несумненна, сімвалы.

Прасочым жа за сюжэтам, абапіраючыся на сімвалы і іх тлумачэнні.

Чатырох невядомых аб'яднала адно — пачуццё голаду. Аўтар знаёміць з героямі незвычайна: спачатку падрабязна іх апісвае — адзенне, знешнасць, выраз твару… Апрануты яны амаль аднолькава: на іх целах спалучыліся і вайсковае, і сялянскае, ад чаго нам немагчыма зразумець, хто яны і адкуль. Пісьменнік раскрывае іх вобразы паслядоўна. Нават вельмі паслядоўна. Спачатку іх можна адрозніць хіба што па выразах твараў. У аднаго — рухавасць, бляск у вачах, маладосць жыве ў твары; у другога — халодная абыякавасць і безнадзейнасць навекі асталяваліся на твары; трэці — з прыпухлым тварам. Але ж у канцы гісторыі яго твар ужо іншы, зменены. Чаму? Магчыма, ён ажыў, смерць адышла ад яго. А можа, ёсць нешта іншае?

Гэтая чацвёрка, як памятаеце, палюе на быка, які хвастом па самыя сцёгны ўблытаўся ў шыпшыннік. Ён спрабаваў вызваліцца, ды не змог. Ірваўся на волю — і адчуваў смерць.

Ці не здаецца вам, што вельмі незвычайна пачынаецца гэты раман пра ваенны час? Замест таго каб апісваць падзеі, пісьменнік аддае ўсю ўвагу героям — спрабуе разабрацца ў іх душах. Чаму ён пачынае з быка, заблукалага ў лесе? Загнаная спуджаная жывёліна чакае ратавання, і прыход людзей бачыцца ёй спачатку збавеннем. Бык быў свойскай жывёлай, таму не пужаўся людзей. Аднак яго рыканне прыцягнула людзей з іншай мэтай — здабыць мяса, каб паменшыць голад, які даводзіць іх да нястрыманасці, шаленства, перадсмяротнага стану. Бык — кропка адліку, месца сустрэчы герояў, якія не давяраюць адзін аднаму. Словамі аўтара: «іх кампанія ледзьве трымалася гнілымі абручамі», але агульная патрэба аб'яднала іх. Героі прагнуць хутчэй наесціся мяса жывёліны, па жылах якой перад смерцю разліўся жах. Ці заглушыць яно іх голад? Ці ў тым сэнс, што яно не даваранае? Ці мо ёсць тут і нешта іншае?..

Пісьменнік разважае над маральнымі якасцямі і пачуццямі чалавека — што з імі стала ў час вайны. Сустрэўшы ў лесе немца, адзін з герояў бачыць, што той яшчэ бліжэй да смерці, чым ён сам. Аднак гэта не выклікае ў яго спачування, а выклікае новую пакуту: бачыць чалавека перад пагібеллю і ў няшчасці — і не мець сілы перамагчы сваю чэрствасць. Да вайны студэнт Ярмаліцкі паспеў папрацаваць настаўнікам. Яго доля — выхоўваць моладзь, узгадоўваць гуманізм, чалавечнасць. Але настаўнік губляе гэтыя пачуцці ў палоне. Вельмі добра адчуваюцца адносіны Ярмаліцкага і немца, якога ён сустрэў у лесе: «Поўная нянавісць уладала імі. Калі каторы з іх рабіў хоць абы-які рух, другі ўскідваў руку са зброяй, каб хаця той не зрабіў гэтага раней за яго». Нават бычынае рыканне не давала магчымасці адарвацца ад пільнага падазронага назірання за рухамі другога.

Яшчэ адна справа аб'яднае герояў — калі яны трапяць у вясковую хату з мёртвай дзяўчынай на лаве. Родным трэба яе пахаваць. Амаль усе няпрошаныя госці пагодзяцца капаць магілу — усе, акрамя паляка, які моцна прамёрз у сваім летнім пінжаку. Як бачым (і як падказвае аўтар), тут паміж беларусам і немцам няма адрозненняў. Чалавечая патрэба прыглушае недавер. А гаспадар хаты атрымлівае магчымасць адразу ж вызначыць, хто з іх хто па паходжанні.

Працяглая безыменнасць герояў — што хацеў тут сказаць аўтар? Ад самага пачатку мы ведаем толькі імя малодшай дачкі гаспадара хаты. Тут Ганулся — сімвал чысціні, адкрытасці, бязгрэшнага пачатку, да якога героі звяртаюцца смела. Маючы хоць невялікую магчымасць расказаць ёй пра сваё жыццё, пакаяцца і паспавядацца, яны звяртаюцца да Ганусі, і праз гэтыя звароты да яе мы знаёмімся з імі, з іх цяжкімі лёсамі. У шмат якіх творах тое, што патрэбна герою, — добрае слова або прысуд — гучыць менавіта з вуснаў дзіцяці.

Для Уладзіміра Ярмаліцкага, які збег з палону, Ганулся — вобраз ненароджанай дачкі, якая ў нямецкім палоне магла б стаць рабыняй. Гэта і вобраз дзяцінства, вайною забітага.

Выслухае Ганулся і немца, які не хоча ваяваць, а хоча вярнуцца да роднай сям'і.

Зірніце на вясковую хату: яна пустая, амаль без мэблі, і вокны яе без шыбаў. Гэта хата бацькоў Мікалая Сямагі. Звярніце ўвагу і на «халодны пакой». Што там захоўваецца? Хлеб і адзенне, якое прапануюць студэнту Ярмаліцкаму. А Ганулся там расчыняе цеста. Халодны пакой у жыцці не стасуецца з рошчынай, як вяскоўцу Кузьме Чорнаму гэта не ведаць? Але ён упарта звяртае чытацкую ўвагу на гэты пакой — як на чыстае, светлае месца, дзе героі могуць застацца сам-насам, забыць пра вайну, дакрануцца да звыклага, вечнага, дзе толькі пра цеста і думаць... А можа, тут нешта іншае?

Героі не застаюцца аб'яднанымі да канца. У хаце з'яўляецца атрад немцаў, і адзін з тых чатырох, што ўпалявалі быка, апынуўшыся германскім афіцэрам, расказвае ўсё пра тых, хто з ім побач. Ён выкрывае, як яму здаецца, ворагаў, пачуўшы папярэдне іх споведзі. Забыўшыся, што яны — людзі, разам з якімі ён змагаўся са смерцю, якія дапамаглі яму выратавацца. Цяпер, са сваімі, ён смелы. Немец забыў і дабро гаспадароў хаты. Героі не скараюцца ворагам — яны падпальваюць хату з немцамі. У агні тым гіне і нямецкі афіцэр, разам з якім яны змагаліся са смерцю, які дапамагаў ім выратавацца. Ціха, метадычна беларусы распальваюць вогнішча, не думаючы пра тых, хто ў хаце. Бо гэта ж немцы, якія нясуць смерць і палон. Ці не ставіць аўтар гэтым вогнішчам першых і другіх пад Млечны Шлях?

Героі ідуць на радзіму да Ярмаліцкага — і апынаюцца перад спаленай хатай, да якой кіраваліся, як да ратунку. Як сказалі б сёння, спрацаваў закон бумеранга.

…Пры перачытванні рамана мне ўспомніўся фільм «Зязюля», зняты ў 2002 годзе Аляксандрам Рагожкіным. Чым ён падобны на «Млечны Шлях»? Паглядзіце фільм — і знайдзіце адказы.

«Млечны Шлях» адрозніваецца ад іншых твораў Кузьмы Чорнага сваёй незвычайнасцю: раман гаворыць пра тое, што заканчэнне вайны само па сабе не нясе людзям шчасце. Мір — не канец чалавечым бядотам. Таму «Млечны Шлях» так нагадвае сучасны фільм без шчаслівага завяршэння.

Таццяна Лаўрык

# Што хаваюць старыя кнігі

У далёкім 1908 годзе ў тагачаснай сталіцы Расійскай імперыі, Санкт-Пецярбургу, у адным з выдавецтваў выйшла даволі незвычайная кніга. Нават тры кнігі, дакладней, трохтомнік, агульная назва якога была «В царстве смекалки или арифметика для всех». Аўтарам трохтомніка быў вядомы педагог Емяльян Ігнатавіч Ігнацьеў, які доўгі час выкладаў матэматыку ў адной са сталічных гімназій. І каб павысіць інтарэс гімназістаў да свайго прадмета, часта разам са звычайнымі матэматычнымі заданнямі ён даваў вучням і заданні даволі незвычайныя: задачы-жарты, задачы-гульні, заданні на кемлівасць, нават задачы-казкі. Усё гэта потым лягло ў аснову таго трохтомніка.

Кніга гэтая, дарэчы, адразу ж пасля выхаду мела вялікі поспех, неаднаразова перавыдавалася, праўда, часцей у скарочаных варыянтах. І многія вядомыя вучоныя ўпершыню ўсур'ёз зацікавіліся матэматыкай менавіта пасля знаёмства з гэтай незвычайнай, але такой патрэбнай і карыснай кнігай.

«Вынікі надзейныя тады толькі, — пісаў у прадмове да галоўнай працы свайго жыцця сам аўтар, Е.І. Ігнацьеў, — калі ўводзіны ў вобласць матэматычных навук пададзены ў лёгкай і прыемнай форме, на прадметах і прыкладах будзённых і паўсядзённых абставін, якія падабраныя з належнай дасціпнасцю і займальнасцю».

І гэта сапраўды так.

Прыводзім два матэматычных заданні з гэтай кнігі. Ніжэй будуць змешчаны адказы, але вы не спяшайцеся да іх адразу ж звяртацца. Спярша паспрабуйце самі знайсці рашэнне. Дакажыце, што матэматычных ведаў і, галоўнае, кемлівасці ў вас хапае. Ва ўсялякім разе, што іх у вас ніколькі не менш, чым у тых хлопчыкаў і дзяўчынак, якія ў далёкім ад нас пачатку XX стагоддзя жылі, вучыліся, марылі аб будучыні і рашалі задачы. У тым ліку і займальныя…



## Селянін і чорт

*Матэматычная казка*



Ідзе селянін і плача: «Эхма! Жыццё маё горкае! Заела галеча зусім! Вось у кішэні толькі некалькі грошыкаў медных боўтаецца, ды і тыя зараз трэба аддаць. І як гэта ў другіх бывае, што на ўсялякія свае грошы яны яшчэ грошы атрымліваюць?

Эх, хоць бы хто дапамагчы мне пажадаў!»

Толькі паспеў гэта сказаць, як зірк, а перад ім чорт стаіць.

— Што ж, — кажа, — калі хочаш, я табе дапамагу. І гэта зусім проста. Вось бачыш гэты мост цераз раку?

— Бачу! — кажа селянін, а сам з недаверам на чорта пазірае.

— Ну дык, як толькі ты па ім на той бок пяройдзеш — у цябе ўдвая больш грошай стане, чым зараз маецца. Пяройдзеш потым на гэты бок, зноў стане ўдвая больш, чым было. І кожны раз, як ты будзеш пераходзіць мост, у цябе будзе роўна ў два разы больш грошай, чым было да гэтага пераходу.

— Не верыцца штосьці, — кажа селянін.

— Ды так яно і будзе! — стаіць на сваім чорт. — Толькі, цур, угавор! За тое, што я табе падвойваю грошы, ты кожны раз, як мост пяройдзеш, мне 24 капейкі аддаваць будзеш. Інакш я не згодны.

— Ну, гэта не бяда! — кажа селянін. — Раз грошы ўсё роўна падвойвацца будуць, то чаму б табе кожны раз 24 капейкі не даваць. Згодзен на гэткую ўмову!

На тым і паладзілі.

Перайшоў селянін цераз мост, пералічыў грошы. Сапраўды, у два разы больш стала. Кінуў ён 24 капейкі чорту і перайшоў мост другі раз. І гэтым разам грошай падвоіла. Адлічыў ён зноў 24 капейкі, аддаў іх чорту і перайшоў цераз мост трэці раз. Грошай зноў стала ў два разы болей. Ды толькі аказалася іх роўненька 24 капейкі, якія па ўгаворы ён павінен быў чорту аддаць. Аддаў, куды ж дзенешся… і застаўся без капейкі…

Дык колькі ж у селяніна было ў кішэні грошай да сустрэчы з чортам?



## Тры селяніны і бульба

*Матэматычная гісторыя*

Ішлі тры селяніны і зайшлі ў заезны дом адпачыць і паабедаць. Заказалі гаспадыні згатаваць для іх бульбы, а самі паснулі.

Гаспадыня згатавала бульбу, але не стала будзіць сялян, проста паставіла чыгунок з бульбай на стол, а сама пайшла кудысьці па сваіх справах. Прачнуўся адзін селянін, убачыў на стале бульбу, але, каб не будзіць астатніх, пералічыў агульную колькасць бульбін,

з’еў з іх трэцюю частку і зноў лёг спаць. Потым прабудзіўся другі селянін і, не ведаючы, што сябар ягоны ўжо з’еў сваю долю, зноў пералічыў бульбу, што засталася, і з’еў трэцюю частку ад яе. Пасля гэтага ён таксама заснуў, а трэці з сялян, калі прачнуўся, вырашыў, што ён самым першым і абудзіўся. Пералічыў ён бульбіны ў чыгунку, з’еў трэцюю частку, і вырашыў таварышаў сваіх разбудзіць.

Прачнуліся яны і ўбачылі, што ў чыгунку 8 бульбін засталося. Пачалі адзін аднаго распытваць, вось тады ўсё і высветлілася.

Падлічыце, колькі ўсяго бульбін падала на стол гаспадыня, колькі з іх з’еў кожны з сялян, і колькі яшчэ павінен з’есці, каб кожнаму пароўну дасталася?

# Адказы

## На казку «Селянін і чорт»

Задача вельмі проста рашаецца, калі пачаць яе рашэнне з самага канца, прыняўшы да ўвагі тое, што пасля трэцяга пераходу ў селяніна аказалася роўна 24 капейкі, якія ён і вымушаны быў аддаць чорту.

На самай справе, калі пасля апошняга пераходу ў селяніна аказалася 24 капейкі, то перад гэтым пераходам павінна было быць 12 капеек. Але гэтая сума засталася пасля таго, як ён аддаў 24 капейкі чорту, значыцца да гэтага ў селяніна было 36 капеек. Тады выходзіць, што другі пераход цераз мост ён пачаў з 18 капейкамі, а гэтыя 18 капеек засталіся ў яго пасля таго, як ён першы раз перайшоў мост і аддаў чорту 24 капейкі. Значыцца, пасля першага пераходу моста ў селяніна стала: 18+24=42 капейкі.

Адсюль выходзіць, што да пераходу ў яго была палова гэтай сумы. Іншымі словамі, у кішэні селяніна да сустрэчы з чортам была 21 капейка ўласных грошай.

Прагадаў, небарака! Хацеў хуценька ўзбагаціцца, але забыўся, што на чужую параду трэба яшчэ і свой розум мець.

## На гісторыю «Тры селяніны і бульба»

Трэці селянін пакінуў для таварышаў 8 бульбін, г. зн. кожнаму з іх па 4 штукі. Значыцца, і сам ён з’еў 4 бульбіны. Пасля гэтага лёгка сцяміць, што другі селянін пакінуў сваім таварышам 12 бульбін, па 6 на кожнага, і сам таксама з’еў 6. Адсюль выходзіць, што першы селянін пакінуў сябрам 18 бульбін, па 9 на кожнага, і сам з’еў 9 бульбін.

Калі іх скласці, то зразумела, што першапачаткова ў чыгунку было 27 бульбін, і на долю кожнага з сялян прыходзілася па 9 бульбін. Але першы з іх сваю долю ўжо з’еў. Значыцца, з васьмі бульбін, што засталіся, таму селяніну, які ўжо з’еў 6 штук, трэба аддаць 3 бульбіны, а на долю селяніна, які пазней за іншых абудзіўся і з’еў усяго толькі 4 бульбіны — выпадае яшчэ 5 бульбін.

І тады будзе ўсё па справядлівасці.

# Два дубы

Здаецца, даўно ўжо мінула тая страшэнная вайна, але па-ранейшаму жыве аб ёй памяць у сэрцах і душах людзей. Бо шмат слёз і гора прынесла яна ў наш край, шмат людзей бязвінна тады загінула.

Хачу паведаць вам аб адной трагедыі таго часу, і паданні, якое пасля яе засталося ў нашым Верхнядзвінскім раёне.

У лютым 1943 года прыехалі нямецкія карнікі да вёскі Вароны, акружылі яе. Людзям спачатку сказалі так: «Не хвалюйцеся, калі вы не звязаныя з партызанамі, не корміце іх і ніякім чынам ім не дапамагаеце — тады ўсё будзе добра!»

Але манілі карнікі жыхарам, бо ўжо данеслі здраднікі іх акупацыйным уладам, што часта прыходзяць партызаны ў вёску Вароны, і што мясцовыя жыхары, чым толькі могуць, дапамагаюць народным мсціўцам.

Жудасны лёс напаткаў у гэты лютаўскі дзень жыхароў вёскі Вароны. Спалілі фашысты вёску разам з жыхарамі. І былі гэта, у асноўным, жанчыны, дзеці і нямоглыя старыя.

А яшчэ былі сярод загінулых вяскоўцаў хлопец і дзяўчына, якія былі вельмі закаханыя і ўжо марылі аб вяселлі. А замест гэтага прынялі разам жудасную смерць.

Прайшоў час. Не засталося нашчадкаў у гэтых закаханых на Зямлі, не змаглі яны працягнуць надалей свой род. Але выраслі на месцы трагедыі два дубкі.

Яны і цяпер стаяць там, ужо не дубкі, а дубы. Моцныя, вялізныя і заўсёды побач. Стаяць і нічога не баяцца. Нібыта памяць аб тым, аб чым нельга забыць.

Марыя Шкляр,
7 клас, Бігосаўская СШ, Верхнядзвінскі раён

# Легенда аб касцёле

Стаіць у аграгарадку Дзераўная Стаўбцоўскага раёна вялікі прыгожы касцёл, поўная назва якога — касцёл Ушэсця Прасвятой Дзевы Марыі. І вось якая легенда аб гэтым касцёле ходзіць сярод людзей…

Калісьці на месцы касцёла стаяў вялізны і густы лес, а вакол было топкае балота. І вось аднойчы князь Мікалай Радзівіл Сіротка паехаў на паляванне і, адстаўшы ад сваёй світы, заблукаў у гэтым лесе, патрапіўшы ў балота. Цяжка яму прыйшлося, а тым часам звечарэла, цямнець пачало. І тады князь, памаліўшыся, залез на самае высокае дрэва і з вяршыні ягонай убачыў раптам наперадзе нейкае дзіўнае святло. Пачаў ён рухацца ў бок гэтага святла і дайшоў да сухога ўзвышша, на адным з дрэў якога адсвечвалася ў месяцовым святле ікона Прасвятой Дзевы Марыі. А яшчэ з гэтага ўзвышша добра праглядвалася ўсё наваколле, і гэта дапамагло князю Радзівілу хутка адшукаць дарогу.

А потым князь у знак свайго шчаслівага выратавання пры дапамозе малітвы, якую ён дасылаў Богу і Прасвятой Дзеве Марыі, загадаў на месцы, дзе была знойдзена ікона, пачаць будаўніцтва касцёла, які і захаваўся да нашага часу.

Максім Прыгожы,
6 клас, Дзераўнянская СШ, Стаўбцоўскі раён

У выпуску:



Я — МАСТАК
№ 11

Я ведаю мастацтва

# Да ўсходу Сонца на Заходняй Дзвіне

Работа, пра якую вельмі хочацца расказаць, знаходзіцца цяпер у «Кунстхале» (літаральна — «зала мастацтваў») у Кілі, што ў Германіі. Ёсць, ведайце, яшчэ «Кунстхал» у Галандыі, у тамтэйшым Ротэрдаме, але нам пакуль што ў Кіль. Там можна ўбачыць работу Ільі Рэпіна «Усход Сонца на Заходняй Дзвіне».

Чаму мы расказваем пра карціну, яе не паказваючы? А каб развіць уяўленне — раз (бо ніжэй раскажам, што за карціна і як незвычайна яна пісалася), каб заахвоціць падарожнічаць па свеце, завітваючы не толькі ў «ходжаныя» месцы (не адно да тых культурных аб'ектаў, якім ужо, мабыць, хочацца ад увагі крыху адпачыць) — два… Яшчэ, прынамсі, некалькі апраўданняў такой «недарэчнасці» знойдзецца падчас чытання артыкула, які не мог не быць напісаным з увагі на такую акалічнасць: мастак Ілья Рэпін улюбіўся ў наддзвінскае Сонца!

На самай справе, мы звярнуліся ў «Кунстхал», каб атрымаць лічбавую рэпліку карціны і дазвол на яе размяшчэнне ў «Бярозцы», і цяпер вось чакаем адказу, але вельмі ж ужо нецярпліва: усход Сонца з'ява значная наогул, а калі размова ідзе пра акалічнасць яе панавання на Заходняй Дзвіне, засведчаную пэндзлем таленавітага жывапісца…

Спачатку, сябры, пра тое, як Ілья Рэпін улюбіўся ў наддзвінскае Сонца. Свяцілі ж яму і іншыя сонцы. Але гэтае, што ўзыходзіла раным-рана над Заходняй Дзвіной, ён быццам упершыню ў жыцці ўбачыў. Ад сузірання ў вачах закруціліся дыскі — зялёныя, чырвоныя, сінія. Вось гэтыя дыскі перад вачыма, гэты стан душы і настрой духу ён захацеў перадаць у пейзажы. Каб у таго, хто зірне на яго, перад вачыма таксама закруціліся маленькія каляровыя дыскі. Каб улюбіўся глядач у наддзвінскае Сонца, як гэта неспадзявана здарылася з Рэпіным.



Пропаведзь Ясафата Кунцэвіча.

Ілья Яфімавіч палюбіў ваколіцу Віцебска («чароўны гарадок, на Таледа падобны») і Заходнюю Дзвіну, калі набыў тут, недалёка ад горада фальварак пад назвай Сафіеўка і пераназваў яго, перабудаваўшы, у Здраўнёва. Сафіеўкай фальварак называўся, бо валодала ім адзінокая векавуха з імем Сафія і прозвішчам Яцкевіч, па бацьку Арсенцьеўна. «Яна хоць і малайчынка, але маёнтак запусціла», — каменціраваў мастак стан дома і гаспадаркі, набытых ім за грошы, выручаныя ад продажу карціны «Запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану». У Здраўнёва фальварак быў пераназваны таму, што гэтае вышуканае слоўка надта ж аптымістычна гучыць. Прынамсі, іншых версій паходжання назвы нідзе не выказваецца. Год пакупкі фальварка — 1892-гі. І сем наступных гадоў, да 1899-га, Ілья Яфімавіч будзе атрымліваць асалоду ад летняга адпачынку і летняй жа працы на нашай Віцебшчыне. «Устаю я рана, а трэцяй — чацвёртай раніцы, і да дзясятай — адзінаццатай вечара хапае мноства неадкладных спраў». Працаголік! Вы ведаеце, што ён мог працаваць да страты прытомнасці? Менавіта вось так працаваў. Прыклад мо ўжо занадта прэтэнцыёзны, але праўдзівы, і павучальнасць у ім прысутнічае. Самі, дарагія, мяркуйце, як ім, гэтым прыкладам, скарыстацца. Напішу хіба, што за час, калі ён «адпачываў» у Здраўнёве, ім тут створана было каля шасці дзясяткаў работ, самых розных. «Святочныя гулянні ў старыя часы на Ільін дзень» — вельмі знакавая работа: Ільін дзень у Здраўнёве святкаваўся напярэдадні даты нараджэння мастака (5 жніўня) вельмі велічна і прыгожа. Яшчэ адна работа, напісаная тут, — «Бурлакі на Дзвіне». Таксама даніна павагі і нават любові да нашай мясцовасці (а вы, даражэнькія, думалі, што «Бурлакі» бываюць толькі «на Волзе»?). З’яўленне малюнка «Скальнікі» — зноў сімвалічнае: жыхары Прыдзвіння спакон веку здабывалі вапну з тутэйшай даламітавай пароды. Тут напісаны і «Беларус», і «Касец-літвін». Зірніце, як Рэпін бачыў прадстаўнікоў нашай нацыі: беларус у яго, між іншым, не саламянавалосы, а касец больш нагадвае змагара.



Беларус.



У майстэрні.



Касец-літвін.

У Здраўнёве на пленэры кожнае лета збіралася даволі прыстойная грамада: дзеці, родныя, сябры-мастакі і не толькі. У Рэпіна ў Віцебску было шмат знаёмых. Ён, у прыватнасці, ведаў нашых краязнаўцаў Сапунова і Стукаліча, якія літаральна заразілі яго любоўю да нашай гісторыі. «Пропаведзь Ясафата Кунцэвіча» створана Рэпіным з-за яго прасякнутасці тэмай супрацьстаяння праваслаўнай і ўніяцкай цэркваў і трагічных падзей у Віцебску першай чвэрці XVII стагоддзя. Рэпін ведаў і нашага Сігізмунда Юркоўскага, знакамітага фатографа, чыя майстэрня размяшчалася ў Віцебску на Замкавай вуліцы. Юркоўскі Рэпіна сфатаграфаваў для нашчадкаў.

Дык вось «Усход Сонца…». Ілья Яфімавіч у лісце да сябра Карнея Чукоўскага паведамляе, што карціну гэтую пісаў «не памятаю ў якім годзе» (даследчыкі сцвярджаюць, што ў 1892-м) кожны сонечны дзень (ад той раніцы, як убачыў яго) рана-рана, на беразе рэчкі, кроках мо за трыццаць ад дома. Не пісаў, а «прагна каўтаў: і тон неба — ружовых, перыстых аблокаў над сонцам (што, на жаль, рэдка паўтаралася), і як дапаўненні: абмялелую ў працяг лета Дзвіну (над парогамі супраць нас) і лес адразу за рэчкай».

Пейзаж — не характэрны для Рэпіна жанр, таму «Усход Сонца…» ён не прадаў. «Не пасмеў», як піша Чукоўскаму. І падарыў Саву Мамантаву. Прозвішча гэтае нашаму чытачу тлумачыць, мяркуем, не трэба. Трапіўшы аднойчы ў кватэру Мамантава ў Маскве каля Спаскіх казармаў, Рэпін выпадкова ўбачыў там свой пейзаж, які вісеў на сцяне ў сваёй жа, яму нададзенай, харошай, шырокай раме, «… і сам залюбаваўся», — піша мастак. І ўзнавіўся ў яго вачах рух дыскаў — зялёных, чырвоных, сініх. То і чытач «Бярозкі» здолеў бы перажыць падобнае неверагоднае ўзрушэнне. І вельмі было б дарэчы нам дачакацца рэплікі з «Кунстхала».

Святлана Воцінава

# Ратаванне Грэцыяй

Амерыканскі пісьменнік Генры Мілер пісаў пра Грэцыю: «Аніводная краіна, дзе я пабываў, не здалася мне такой велічнай. Мілямі тут нічога не вымераеш. У пэўным сэнсе, неспацігальным для маіх суграмадзян, Грэцыя бясконца большая за Злучаныя Штаты. Грэцыя можа паглынуць Амерыку, а заадно Еўропу. Грэцыя гэтак жа малая, як Кітай ці Індыя. Гэта свет нязбытнай мары».

Калі глядзіш на творы Рыгора Сітніцы грэчаскага перыяду, мімаволі згадваеш гэтыя словы. Але на творах яго вы не ўбачыце райскіх пейзажаў, велічнага мора або гор. Нічога падобнага на «свет нязбытнай мары». На першы погляд.

Грэцыя Сітніцы — гэта дробныя фракцыі антычных манументаў. Архітэктурная фрагментацыя. Сітніца нібы фіксуе фундамент калыскі еўрапейскай цывілізацыі. Калоны, ступені — дэталі, якія ствараюць падмурак, які можа вытрымаць не толькі антычны пантэон багоў, але і ўвесь Свет.



«Ратаванне Грэцыяй» — вельмі ўдалая серыя аўтара, якой неўзабаве споўніцца дваццаць гадоў. Але ўсе творы выглядаюць вельмі па-сучаснаму, і заўсёды такімі застануцца. Гэта той выпадак, калі аўтар, як кажуць, трапіў. Трапіў у самую сутнасць.

З часоў антычнасці філосафы выдзялялі розумаспасцігальныя з'явы, якія Платон называў «ноўменамі». Сапраўды, творы Сітніцы — гэта ноўмены. Яны не толькі выглядаюць лагічна, але і атрымаць сапраўдную асалоду ад іх магчыма, калі падвергнуць творы аналізу са скрупулёзнасцю і майстэрствам, уласцівым іх аўтару. Тады становіцца зразумела: Сітніца не проста фіксуе «жыццё» рэчаў, ён працуе з такім філасофскім паняццем як «рэч у сабе». Гэтае паняцце ўпершыню выкарыстаў нямецкі філосаф Імануіл Кант у сваіх працах («Пралегомены да метафізікі», «Крытыка чыстага розуму» і г. д.). Чалавеку немагчыма даведацца, што ўласціва рэчам самім па сабе, то-бок чым самі рэчы вызначаюцца ў сваім існаванні па-за нашым паняццем аб іх. Гэта не значыць, што ўсе аб'екты і рэчы непазнавальныя па вызначэнні, але ўсякая рэч як такая мае сваю сутнасць, незалежна ад нашага погляду на яе. Творы Сітніцы не спасцігаюцца эмацыянальна. Яны валодаюць метафізічнымі характарыстыкамі. Можа, у гэтым сакрэт плённага выкліку аўтара пасля наведвання цудоўнай, багатай на гісторыю краіны? Аўтару ўдалося зафіксаваць філасофію на паперы. І, магчыма, гэта і есць тая самая «нязбытная мара». Мара пазнання свету.

Хто б ні пабыў у Грэцыі, усе кажуць, што адчуваюць сябе перанароджанымі. Гэтая краіна валодае неверагоднай энергетыкай. Месца моцы, крыніца натхнення.

Як бы там ні было, але па факце Грэцыя падарыла нам не толькі антычную філасофію, аліўкавы алей і Алімпійскія гульні, але і цудоўныя творы Рыгора Сітніцы.

Алеся Жыткевіч

# Як маляваць усё што заўгодна, альбо Магія прапорцый

Часта навык малявання складаецца з канкрэтных навыкаў: ведання перспектывы, валодання малюнкам геаметрычных прадметаў, галавы, паставы чалавека.

Але калі табе давядзецца намаляваць нешта нетрывіяльнае, што мае незнаёмую форму? Скажам, марскі анемон, скульптуру, сабаку, экзатычнае дрэва з натуры? Навыкі аказваюцца бездапаможнымі.

Сакрэт простага і праўдзівага малявання палягае ў рабоце з натуры і выкарыстанні «метаду прапорцый».

Спрабуйма!

Матэрыялы: **доўгі** просты аловак, папера, мальберт, аб'ект малявання з натуры. Возьмем за прыклад нацюрморт з некалькіх фруктаў.















**Азнаёмімся з выкарыстаннем метаду прапорцый.**

**1.** На паперы праводзім лінію гарызонту. Візуальна вывучаем садавіну.

**2.** Умоўна ўпісваем групу прадметаў у прамавугольнік — па крайніх кропках, і эскізна малюем на паперы. Цяпер праверым, наколькі правільна мы адгадалі прапорцыі.

**3.** Для гэтага бяром просты аловак і на адлегласці выцягнутай рукі прыкладаем да ўяўнай выявы (у паветры). Аловак вертыкальна прыстаўляем да самай шырокай часткі групы прадметаў, адмяраем гэту шырыню і кончыкам вялікага пальца прыціскаем гэта месца на алоўку.

**4.** Цяпер самае важнае — шырыню кампазіцыі суадносім з даўжынёй: глядзім, колькі разоў шырыня змяшчаецца ў даўжыню. Значыць, паварочваем аловак гарызантальна і прыкладаем адрэзак да даўжыні. Дык колькі разоў шырыня змяшчаецца ў даўжыню? Напрыклад, два разы.

**5.** Запамінаем гэта і пераносім на паперу. Для гэтага нашу ўжо намаляваную шырыню адмяраем на алоўку і двойчы адкладаем адрэзак такога памеру на даўжыні.

Такім чынам, мы задалі асноўныя прапорцыі, узятыя намі непасрэдна з натуры.







**6.** Карыстаючыся гэтым жа прыёмам, удакладнім дэталі. Напрыклад, трэба выдзеліць апельсін — то алоўкам замяраем даўжыню апельсіна ў натуры, суадносім з агульнай даўжынёй. Вызначаем, колькі разоў памер апельсіна змяшчаецца ў агульную даўжыню ўсёй кампазіцыі. Пасля пераносім на паперу. Тое ж робім і з астатнімі аб’ектамі. Пасля ў кожнага аб’екта ўласную даўжыню суадносім з уласнай шырынёй, і так да бясконцасці.

Гэты прыём дазваляе даволі дакладна маляваць аб’екты з натуры і значна палягчае будаванне прадмета.

Рэкамендую табе рухацца ад вялікай агульнай формы да малой дакладнай.

Алеся Галота

# Лісты да хрэсніка



Прывітанне, дарагі мой хрэснік!

Сёння атрымала твой ліст. Дзякую табе, анёл мой, за добрую вестку. Я рада, што ўсё ў вас добра — і дома, і ў школе. Дзякую Богу! Але адзін выраз з твайго ліста прымусіў мяне задумацца.

Ты пішаш, што ў нядзельнай школцы вам загадалі «вычытваць» ранішняе і вячэрняе правілы, а табе няма часу. Ты «сава», таму раніцай вочы разляпіць не можаш, у школу на трэці званок ледзь-ледзь паспяваеш. Кажаш, няма калі табе малітвы чытаць.

Уключы логіку. Калі ты «сава» і нічога не паспяваеш раніцай, дык вечарам ты можаш памаліцца спакойна, калі «жаўрукі» ўжо спяць.

Табе часу на малітву не хапае? Пры няспешным і ўдумлівым чытанні на малітву пойдзе хвілін 15—20 раніцай і столькі ж вечарам. А ў сутках 60х24=1440 хвілін! Колькі іх мы пускаем на сон, ежу, балбатню, гульню, камп'ютар? Чаго ж нам насамрэч не хапае? Толькі чэсна скажы. Мо жадання? Бо на тое, чаго мы па-сапраўднаму хочам, мы заўсёды знойдзем і час, і сілы. Ты згодны?

Чаму ж у нас адсутнічае жаданне маліцца? Мне здаецца, праблема ў нашых галовах. Яны ў нас няправільна запраграмаваны. Таму, што тленнае, часовае, смяротнае, мы надаём каласальнае значэнне. Таму ж адзінаму, што застанецца жывым назаўсёды, мы зусім не надаём увагі. Мы не забываем пра сняданак, абед і вячэру і насычаем ежай цела. Мы насычаем уражаннямі, эмоцыямі і ведамі душу. А дух пакідаем галодным, бо толькі малітва яго насычае. Калі б мы ведалі, як малітва ўмацоўвае дух, як уздымае яго да Крыніцы быцця, як напаўняе жыццёвай сілай, Боскай энергіяй — хіба мы пакінулі б дух без малітвы? Ты ж свой айфон кожны дзень у разетку ўключаеш, на падзарадку ставіш. Кожны чалавек ведае,

што электрапрыборам патрэбна электраэнергія. А духу чалавека патрэбна Боская энергія. Але падключыцца да яе магчыма толькі праз малітву.

Прымусіць маліцца нельга: нявольнік не багамольнік. Але пабуджаць сябе да малітвы — неабходна. Уяві, што малітвай ты мосціш сабе дарогу ў Царства Божае, пракладаеш шлях да нябёсаў. Тут папрацаваць трэба! А па працы і ўзнагарода будзе. Так ва ўсім. Калі б твае бацькі працавалі па паўгадзінкі ў дзень, якую зарплату яны б атрымалі? Калі б ты вучыўся па 15 хвілін у дзень, ці змог бы ты скончыць школу? Так і з малітвай: чым больш молішся, тым бліжэй да цябе Бог і Царства Божае, «якое ўнутры нас ёсць».

Хочаш ведаць, як маліўся Сам Ісус Хрыстос? Прычытай главы 5 і 6 Евангелля паводле Лукі, главу 1 Евангелля паводле Марка, главы 14 і 26 Евангелля паводле Матфея. Ты ўбачыш, што Сын Божы маліўся ўвесь час: раніцай, вечарам, ноч напралёт. Ён сыходзіў у пустынныя месцы і заставаўся адзін, каб маліцца. З раніцы да ночы Ён служыў людзям: прапаведаваў, вучыў, лячыў. Натоўпы людзей хадзілі за Ім у чаканні дапамогі і цуду. Але кожную справу Ён пачынаў з малітвы і завяршаў малітвай. Так і нам, хрысціянам, трэба рабіць. Сказана ў Евангеллі: «Бесперапынна маліцеся».

Не «вычытваць» правіла трэба, а маліцца Богу, размаўляць з Ім. Царква для нас захавала малітвы вялікіх святых як узор вышыні стасункаў з Богам. Мы ж коснаязыкія, самі двух слоў не можам звязаць. Вось і вучымся ў святых айцоў малітве.

А самае правільнае — паставіць малітву на першае месца, усё астатняе — потым. Будзем пачынаць справу, пытаючы дазволу ў Бога, а завяршаць падзякай Яму. І так рабіць дзень па дні. І тады ўсё складзецца і ўсё ў жыцці зладзіцца. Вось і будзе ўсім радасць і Боская ласка! І паглядзіш: на ўсё часу хопіць.

Беражы цябе Бог, мой залаты!

Твая хросная

## Малітва слоў

«За дзвярыма застаюцца тыя малітвы, якія, узносячыся да Бога, не маюць пры сабе любові, таму што толькі любоў адчыняе малітве дзверы».

**Прападобны Серафім Сірын**

«Некаторыя спрачаюцца наконт веры, і канца не відаць гэтым спрэчкам, а спрачацца не трэба, трэба толькі маліцца Богу і Божай Маці, і Гасподзь прасветліць, і хутка прасветліць».

**Прападобны Сілуан Афонскі**

«Многія вывучылі ўсе веры ды веру сапраўдную не спасціглі, але хто будзе пакорліва маліцца Богу, таму дасць Гасподзь спазнаць, як Ён любіць чалавека».

**Прападобны Сілуан Афонскі**

*З кнігі «Верую, Господи, помоги моему неверию…»*

***

Адзін манах так тлумачыў малітву:

— Уяві, што з неба спусцілі залаты ланцуг. Ты за яго ўхапіўся і, перабіраючы рукамі, звяно за звяном, думаеш, быццам прыцягваеш гэты залаты ланцуг да сябе на зямлю. Але насамрэч ты ўздымаешся па ім, бо ён уздымае цябе на Неба. Такая вось сіла малітвы.

***

Адна дваранка прыйшла да прападобнага Серафіма Сароўскага, паскардзілася, што настаўнікі дрэнна вучаць яе дзяцей французскай мове, і спытала, што ёй рабіць.

— Ты, матухна, лепш навучы сваіх дзетак Богу маліцца, а французскай яны потым лёгка навучацца, — адказаў старац.

*З кнігі « Просто верить: Сборник христианских притч и сказаний»*

## Праваслаўныя чытанні

**Мітрапаліт Антоній Суражскі**

### Вайна з мышамі

Неяк мы — бабуля, мама і я — жылі ў царкоўным доме. У ім завяліся мышы, яны скрозь бегалі, і мы не ведалі, што з імі рабіць. Мы не хацелі расстаўляць пасткі, бо нам было шкода мышэй, і не хацелі раскідваць кавалачкі хлеба з атрутай, бо баяліся, каб іх не падняла бабуля, якой тады было дзевяноста гадоў. І раптам я ўспомніў, што ў Вялікім Трэбніку ёсць зварот, напісаны ўжо не памятаю якім святым, да ўсіх жывёл, якія парушаюць чалавечае жыццё, — своеасаблівы заклік сысці. Там пералічаны дзясяткі розных звяроў, пачынаючы ад ільвоў, тыграў і завяршаючы кузуркамі. Я прачытаў і падумаў: «Не можа быць! Як я магу карыстацца такой малітвай?



## Восень у мінскім скверы

Раманаўская Слабада.
Як храм,
Ля Нямігі скверык
Наведаў Міцкевіч Адам —
Айчыннай духоўнасці вернік.

Застыла на міг
Слабада.
У выстылай апранасе,
Малітвамі вершы шаптаў
Прыродай расчулены
Класік.

Стамлёна
На лаўцы прысеў.
Здалося,
Здарожаны геній,
Як лісце,
Збіраў пакрысе
Рассыпаныя імгненні.

Затым —
У самоце застыў,
Бо недзе
Ў нябесным харале
Ці свечкі,
Ці, можа, лісты,
Сагрэўшы душу,
Дагаралі.

Уладзімір Мазго

Я не веру, што такое можа здарыцца!» Але пасля падумаў яшчэ: «Але ж святы, які склаў гэтую малітву, верыў у гэта». І тады я да яго звярнуўся і сказаў: «Я не веру, што атрымаецца хоць што-небудзь ад таго, што я прачытаю такую малітву, але ты яе склаў, напісаў, ты яе прамаўляў з глыбінь веры, і, калі ты прамаўляў яе, нешта здарылася, бо інакш ты не ўключыў бы яе ў кнігу. Дык вось што мы зробім: я прачытаю тваю малітву, а ты яе прамоў з глыбіні сваёй святасці і прынясі яе Богу. Але паўтараю: я не веру, быццам нешта можа здарыцца». Я сеў на ложак, паклаў на калені Вялікі Трэбнік, дачакаўся, калі з каміна пакажацца мыш. Я яе перахрысціў і сказаў: «Сядзь і слухай». І на маё здзіўленне мыш села на заднія лапкі і перастала рухацца. Я тады ёй, гэтай англійскай мышы, прачытаў уголас на славянскай мове малітву, якая некалі была складзена па-грэчаску. Скончыў, перахрысціў яе і сказаў: «А цяпер ідзі і скажы гэта іншым!» Яна пайшла, і ніводнай мышы ў доме не засталося. І мяне гэта так узрадавала: я не мог пахваліцца, што гэта адбылося з-за маёй веры. Маё нявер'е было поўнае, нават не тое што сумненне — я быў упэўнены, што нічога не атрымаецца, але быў упэўнены, што гэты святы верыў і сур'ёзна такую малітву пісаў, і яна спраўдзілася.

## Сустрэча

Аднойчы да мяне падышоў малады чалавек і кажа: «Мяркуючы па вашым адзенні, вы веруючы, святар?» Я адказаў: «Так» — «А я вось у Бога не веру…» Я а яго паглядзеў, кажу: «Вельмі шкада!» — «А як вы мне дакажаце Бога?» — «Які доказ, якога кшталту доказ вам патрэбен?» — «А вось: пакажыце мне на далоні вашага Бога, і я павеpу ў Яго…» Ён працягнуў руку, і я ўбачыў на ёй заручальны пярсцёнак. Я кажу яму: «Вы жанаты?» — «Жанаты». — «Дзяцей маеце?» — «Дзеці ёсць». — «Вы кахаеце жонку?» — «А як жа? Кахаю!» — «А дзяцей сваіх любіце?» — «Так». — «А я вось не веру ў гэта!» — «Як так: не веру? Я ж вам кажу…» — «Так, але я ўсё роўна не веру. Вось выкладзіце мне сваю любоў на далонь, я на яе пагляджу і павеpу…» Ён задумаўся: «Так, з гэтага пункту я на любоў не глядзеў».

**Айцец Аляксандр Богдан**

## Святыя і жывёлы



Калі мы ў цырку глядзім на дрэсіраваных жывёл, то любуемся, як умела спраўляюцца з імі дрэсіроўшчыкі. Шмат часу мусяць яны папрацаваць, перш чым выйсці з жывёламі на арэну. А вось у гісторыі Праваслаўнай Царквы ёсць шмат прыкладаў, калі дзікія жывёлы, пры ўсёй іх дзікасці, без усялякай дрэсіроўкі пакараліся святым людзям.

Калі ў Райскім Садзе Бог загадаў чалавеку даць імёны ўсім жывёлам, для Адама гэта не стварыла аніякіх цяжкасцяў. Знаходзячыся ў цесных зносінах з Богам і жывучы ў абсалютнай гармоніі з усімі жывымі істотамі, што былі створаны Усявышнім, Адам бачыў і разумеў сутнасць кожнага звера. І ў тых імёнах, якія ён ім даў, былі цалкам адлюстраваны іх характары, лад жыцця, знешнія асаблівасці…

Спрадвечная гармонія тлумачылася тым, што ў Эдэме ўсе боскія стварэнні не ўяўлялі небяспекі адно аднаму, не кажучы ўжо пра чалавека, захавальніка Райскага Саду. Але ўсё змянілася з грэхападзеннем, на зямлі пачало расці пустазелле, а сярод жывёл з'явіліся драпежнікі, якія перасталі бачыць у чалавеку вобраз Божы. Праўда, з цягам часу і чалавек навучыўся паляваць на жывёл, некаторыя з іх былі прыручаны і сталі «кармільцамі сям'і». Вось толькі трымаць прыручаных жывёл трэба было абавязкова на прывязі альбо ў загоне. Інакш жывёлы гэтыя маглі разбегчыся, адчуваючы ў сабе свабоду, якую калісьці згубілі…

Прыручыць аказалася магчымым і дзікага звера — дрэсіраваныя жывёлы ў цырку таму прыклад. Але без бізуна і клеткі гэтага не ўдаецца дасягнуць нават самаму вопытнаму і адоранаму дрэсіроўшчыку.

А Святы Герасім Заіарданскі змог прыручыць дзікага льва. Аднойчы ў час прагулкі па беразе ракі Іардан Герасім убачыў льва, які гучна рыкаў. Звер быў незвычайна вялізным, і ягонае страшнае рыканне распужала ўсё жывое ў акрузе. Убачыўшы Герасіма, леў вялізнымі скачкамі кінуўся да яго і раптам лёг на зямлю каля самых ног святога чалавека. Скуголячы, звер працягнуў да Герасіма распухлую лапу, якая гнаілася і крыватачыла ад вострага сцябла трыснягу, што глыбока засела ў лапе.

Герасім асцярожна выдаліў трыснёг з раны, пасля прамыў яе і абвязаў кавалкам чыстага палатна. Пакуль ішла аперацыя, леў нават не варухнуўся, а пасля ўжо не адыходзіў ні на крок ад свайго ратавальніка.

У лаўры святога Герасіма быў асёл, які вазіў ваду з Іардана, і леў пачаў ахоўваць гэтага асла. Старцы лаўры прывыклі даручаць льву ахову асла, якога вялізны звер суправаджаў да ракі. Але аднойчы здарылася бяда: асла ўкралі пагоншчыкі вярблюдаў. Святы Герасім вырашыў, што гэта леў з'еў асла, і ў пакаранне загадаў льву самому вазіць ваду для манастыра да таго часу, пакуль манахі не змогуць купіць другога асла. А праз нейкі час асёл знайшоўся, і святы Герасім зразумеў, што леў не вінаваты, і ў суцяшэнне, а, магчыма, і ў якасці ўзнагароды даў драпежніку імя Іардан.

Калі Герасім Заіарданскі памёр, леў Іардан быў у пустыні. Вярнуўшыся, ён, як звычайна, пачаў шукаць святога старца. Вучань Герасіма спрабаваў растлумачыць Іардану, што старац пакінуў іх назаўсёды, а леў усё роўна з рыканнем кідаўся то ў адзін бок, то ў процілеглы — спрабаваў адшукаць святога Герасіма. Калі ж Іардана прывялі на магілу старца, леў жудасна ўзвыў, ударыўся галавой аб зямлю і сканаў.

Штосьці падобнае можна прачытаць у жыціях многіх іншых святых. Напрыклад, прападобны Сергій Раданежскі, які вёў пустэльніцкі лад жыцця, часта дзяліўся кавалкам хлеба з мядзведзем. Святы Герман Аляскінскі карміў птушак сушанай рыбай, і яны ў вялікай колькасці сяліліся побач з ягонай келляй. Пад келляй у яго жылі гарнастаі. Гэтыя маленькія звяркі вельмі асцярожныя, а святы Герман карміў іх з рук. Калі ж старац памёр, і птушкі, і гарнастаі адразу ж пакінулі тое месца.

Многія наведвальнікі Сароўскага лесу назіралі, як святы Серафім з рук карміў вялізнага мядзведзя. Святы Макарый Егіпецкі (IV ст.) аднойчы, памаліўшыся, вярнуў зрок сляпому дзіцяці гіены. У падзяку за гэта на наступны дзень гіена прынесла святому скуру авечкі. Але Макарый, убачыўшы скуру, сказаў гіене: «Я не вазьму гэтай скуры, бо ты сцягнула ў кагосьці авечку і забіла яе». Але гіена не жадала адыходзіць, яна апусцілася на калені і па-ранейшаму трымала ў зубах скуру. «Пакляніся, што больш не будзеш красці авечак у беднякоў!» — сказаў Макарый, і гіена нахіліла галаву, нібыта ў знак згоды.

Яшчэ выпадак. Калі епіскап горада Фрайзінга Корбініян накіроўваўся ў Рым, на лясной дарозе мядзведзь загрыз ягоную ўючную жывёлу. Тады епіскап загадаў мядзведзю адвесці яго ў Рым, і звер адразу ж падпарадкаваўся гэтаму загаду.

Гэтыя прыклады даюць нам яскравае ўяўленне аб тым, якая згода панавала ў Райскім Садзе паміж чалавекам і прыродай. Адам быў створаны Богам па вобразе і падабенстве сваім. Святыя ўгоднікі імкнуліся да духоўнага ўдасканалення, узнаўляючы гэтым у сваіх душах першапачатковы вобраз, такі, які і быў у Адама да грэхападзення. І калі мы ўсе будзем імкнуцца да гэтага, то ўзаемаадносіны з навакольным светам наладзяцца не толькі для кожнага з нас, але і для ўсяго чалавецтва.

# Надрукаванае лета


Нарынэ Абгаран

«Пражыць яшчэ адно лета, хай і не сваё», — з такімі думкамі я пачала чытаць кнігу. Дакладней, не зусім я і не зусім адна. Мая матуля вырашыла пражыць надрукаванае лета разам са мной. Уголас і па чарзе мы рагаталі, перачытваючы асобныя эпізоды твора, а затым пераказвалі іх за сямейным сталом і ў паездках родным. У нейкай ступені гісторыя сяброўства армянскіх дзяўчынак Нарэ і Манюні, сварлівай і любімай бабулі Ба і іх шматлікіх сваякоў стала і нашай з матуляй гісторыяй.

## «Манюня»




«Жылі-былі ў мястэчку Берд дзве сям'і — Абгаран і Шац». Ці то кнігу пачала чытаць, ці то біяграфію аўтара... Нарынэ нарадзілася ў горадзе Берд (Арменія), у сям'і Абгаран, як вы разумееце. Варта выказаць здагадку, што была ўсё ж такі ў яе сяброўка Манюня, з якой яны правялі незабыўны чэрвень у Адлеры, з прататыпамі персанажаў, апісаных у кнізе.

Адзін з самых яркіх і любімых — Ба. Хто такая Ба (абавязкова з вялікай літары), мы даведваемся на другі тыдзень сяброўства дзяўчынак. Манюня не можа пайсці ў госці да Нарэ і тлумачыць гэта так:

«— Разумееш, — апусціла вочы яна вінавата, — у мяне Ба.

— Хто? — перапытала я.

— Ну Ба, баба Роза.

— І што? — мне было незразумела, да чаго Маня хіліць. — У мяне таксама бабулі — Тата і Наста.

— Дык у цябе бабулі, а ў мяне Ба».

У яе Ба... Ба! Разумееце? Манументальная! Можа, канешне, скласціся ўражанне, што Ба сварлівая, упартая і дэспатычная асоба. Гэта зусім не так. Ці не зусім так. Ба вельмі добры, спагадлівы чалавек. Калі Ба не выводзіць з сябе — яна ўвогуле анёл! Яна і вошай дзяўчынкам выводзіла, і ратавала свае ахопленыя агнём панталоны, і нават утаймоўвала позіркам.

У кнізе няма адзінай сюжэтнай лініі, яна — шэраг апавяданняў, звязаных паміж сабой героямі. Адна з гісторый абурыць неакрэплыя душы чытачоў: дзяўчынкі прынеслі дадому птушаня, якое выпала з гнязда, і сказалі, што будуць яго даглядаць, а бабуля падышла і звярнула птушаняці шыю. Кніга ж пра жыццё, а ў жыцці, ведаеце, бывае па-рознаму. Сустракаюцца і розныя выразы. Многія лаюць аўтара: не багатая руская мова, усё мігціць моднымі слоўцамі. Слоўцы і сапраўды модныя, часам і грубыя, накшталт «мудило». Калі ўжо бабуля Роза назвала суседа «мудило», дык што ж цяпер?.. Аднак да недахопаў кнігі некалькі непрыстойных слоўцаў дадаць трэба. А ў процівагу — станоўчыя эмоцыі, ды і толькі.

«Манюня» рассмешыць, сагрэе і нагадае, як гэта выдатна — проста сябраваць. Я хацела пражыць яшчэ адно лета, а пражыла яшчэ адно дзяцінства! Хай і не сваё.

Але гэта яшчэ не канец!




## «Манюня піша фантастычны раман»

Чытач зноў аказваецца ў кампаніі хуліганістых дзяўчынак Наркі і Манюні. Дарэчы, радыус іх дзейнасці пашырыўся — дом і летнік!

І падчас чытання тое ж адчуванне зайздрасці да таго часу, калі самым вялікім кашмарам была «двойка» па матэматыцы або фізіцы.




## «Манюня, юбілей Ба і іншыя турботы»

Трэцяя кніга пра дзяўчынку Манюню і іншых яе сяброў-сваякоў. Гісторыя такая ж мілая і кранальная, як і іншыя часткі. Чытаючы яе, можна даведацца:

- як адзначаецца 1 Мая ў горадзе Берд;
- як рыхтуецца да 60-гадовага юбілею Ба;
- як зрабіць бронекамізэльку;
- як накарміць ластавак, якія аблюбавалі балкон;
- як падоўжыць жыццё жаванкі.

І яшчэ пра іншае ...

Марына Шантыр

## Топ-5 восеньскага чытання

**1.** «Кветкі для Элджэрнана» Дэніела Кіза — раман з пранізлівай псіхалагічнай сілай. Кніга пакажа, што быць ідыётам не заўсёды дрэнна, а геніем — не заўсёды добра, прымусіць задумацца пра жыццё і пераверне ваша ўспрыманне навакольнага свету.

**2.** «Аліса ў краіне цудаў» Льюіса Кэрала. Гэтая кніга не патрабуе прадмоў.

**3.** «Гісторыя з могілкамі» Ніла Геймана нагадвае «Кнігу джунгляў». Светлая і трохі сумная кніга-казка, раман пра сталенне і сяброўства, пра пошук новых сяброў і межы жыцця і смерці, пра ўзаемадапамогу, любоў і адданасць.

**4.** «Калі тут была Марні» Джаан Робінсан — пра сяброўства і бясконцую адзіноту, гісторыя дзвюх дзяўчынак з розных прастораў — рэальнай і ўяўнай.

**5.** «Мяне клічуць Ліс» Лі Віксэн. Вельмі цікавая кніга, у якой рэальнасць насычана казкай, кніга, з якой вы адкажаце на галоўнае пытанне: што такое мара? «Мяне клічуць Ліс» — небяспечнае падарожжа. Але што значыць небяспека, калі ты стараешся бегчы хутчэй ветру за марай?

Марыя Шчыпанава



# Ксенія Гесць: «Перад вачыма паўстаў заплечнік...»

*Інтэрв'ю*

**Блукаючы па сацсетках, убачыла цікавую суполку. У ёй знайшла сумкі і заплечнікі, да не простыя, а... з душой! Іх робіць адна з самых маладых беларускіх дызайнераў — Ксенія Гесць. Я не ўтрымалася ад размовы з аўтарам арыгінальных вырабаў.**

**— Ксенія, вы любілі ў дзяцінстве што-небудзь рабіць сваімі рукамі?**

— Сказаць, што гэта была любоў, — не сказаць нічога. Я шыла, ляпіла, вязала з ўсяго, што трапляла мне ў рукі. А потым у школе пачаўся такі прадмет як працоўнае навучанне. Я ўдзельнічала ў конкурсах і алімпіядах рознага ўзроўню — ад гарадскіх да рэспубліканскіх.

**— У якім ўзросце вы вызначыліся з будучай прафесіяй?**

— Наогул, у школе я займалася спортам. Ды і з мовамі ў мяне справы былі нядрэнныя. Думала, што буду лінгвістам, але ў апошні навучальны год сябар дапамог зрабіць выбар — расказаў пра Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт, дзе ёсць спецыяльнасць «дызайн».

**— Чаму вы шыеце менавіта сумкі і заплечнікі?**

— Гэта справа выпадковая, у планах не было нічога падобнага, але ўбачыўшы тканіну з беларускім арнаментам, чамусьці адразу ўявіла заплечнік. Галоўнае ў любой справе — захапленне і жаданне.

**— А што вас захапляе?**



— Захапляюць самі людзі, пад іх стылі хочацца рабіць аксесуары. Як бы дзіўна гэта ні гучала, кожны звяртае ўвагу на сумкі або заплечнікі, падобныя на яго самога. А часцей бывае так: бачыш матэрыял — і ў галаве вымалёўваецца эскіз будучай сумкі. Яшчэ я не ўтойваю, што сачу за некаторымі паблікамі ў VK і Instagram, дзе знаходжу вельмі цікавыя ідэі. Але, канечне, дадаю нешта сваё.

**— Ці плануеце ствараць іншыя аксесуары?**

— Пакуль што не. Можа, калі скончу ўніверсітэт, бо я працую адна. Мяне ўсё задавальняе. Да і фізічна я б пакуль што не справілася. Я прымала ўдзел у паказах на Тыдні моды — вырашыла паспрабаваць нешта акрамя стварэння сумак. Атрымала вопыт. Але ўсё роўна мне больш падабаецца рабіць сумкі і заплечнікі.

**— Чым займаецеся ў вольны час?**

— Вольны час... Яго практычна не бывае. Улетку я люблю ездзіць з сябрамі на прыроду. Гуляю ў валейбол.

**— Ці носіце вы свае вырабы?**

— Вядома! Гэта лепшая рэклама. Але магу і купляць, калі рэчы мне падабаюцца. Наогул, аддаю перавагу мінімалізму і прастаце — як у адзенні, так і ў аксесуарах.

**— Якімі якасцямі, на ваш погляд, павінен валодаць дызайнер?**

— Я думаю, што гэта тыя людзі, якія выкарыстоўваюць творчы падыход для вырашэння пэўных задач. Яшчэ вельмі важна выхаваць у сабе працавітасць і ўседлівасць. Неабходны пастаянная практыка і ўдасканальванне майстэрства. А галоўнае — любіць тое, што робіш. Гэта датычыцца абсалютна любой прафесіі.




Подпіс рэдактара

______________

Марыя Шкляр,
7 клас, Бігосаўская СШ, Верхнядзвінскі раён

# Традыцыі беларусаў, пра якія вы маглі не ведаць

*Рэпартаж*





Аднойчы я захацела даведацца, як раней жылі беларусы. Якое адзенне насілі, як выглядалі іх хаты, якімі традыцыямі яны кіраваліся. Зразумела, такую інфармацыю можна знайсці ў кнізе або інтэрнэце. Магчыма, нешта мне раскажа бабуля. Але гэтага мала. На жаль, пра беларускае адзенне большасць з нас можа сказаць толькі тое, што яно было льняным і аздаблялася арнаментам. Мне пашчасціла, я трапіла ў Музей старажытнабеларускай культуры пры Нацыянальнай акадэміі навук у Мінску. Тым, што я даведалася ад Аляксандра Галкоўскага, супрацоўніка музея, падзялюся з вамі.

Пачну з адзення. Цяпер мы бачым яго хіба што на сцэне, ды і тое ў змененым выглядзе. Удзельнікі некаторых музычных і танцавальных калектываў, рэпертуар якіх заснаваны на беларускай культуры, надзяваюць на галаву ўборы з саломы. Вы не паверыце, але так раней аніводная жанчына ні за што б не зрабіла. Салома — гэта ўжо выкарыстаны матэрыял. Раней лічылі, што асоба, начапіўшы яго на сябе, быццам сама становіцца роўнай саломе. Саламянай удавой называлі

жанчыну, ад якой пайшоў муж. Саламяную карону ўскладалі на галаву цяжарнай незамужняй жанчыне. Вялікай абразай было апынуцца ў такім уборы.

Што ж насілі насамрэч? Па-першае, у розным узросце патрабаванні да знешняга выгляду былі свае. Малым дзяўчынкам дазвалялася хадзіць з непрыбранымі валасамі. Больш дарослым дзяўчатам трэба было збіраць валасы, насіць вянкі. Кабеты ж абавязкова насілі намітку — вялікі кавалак ільняной тканіны, па-асабліваму закручаны на галаве. Па-асабліваму — гэта як? На такое пытанне адказаць не могуць нават навукоўцы. У музеі этнаграфіі форму намітак узнаўляюць па фотаздымках. На жаль, дакладна паўтарыць яе не атрымліваецца. Памер кавалка тканіны мог дасягаць некалькіх метраў. Вясельная намітка ў даўжыню была метраў дзевяць. Навошта? Каб жанчына магла агарнуць ёю адначасова сябе і мужа. Такі абрад сімвалізаваў яднанне дзвюх душ. Вы спытаеце: «Чаму жанчына не магла хадзіць без галаўнога ўбору?» Усё проста: нашы продкі лічылі, што на валасы кабеты чапляюцца няшчасці.

Без чаго яшчэ жанчына не магла выйсці з хаты, дык гэта без фартуха. Дарэчы, менавіта па фартуху можна было даведацца, з якой вёскі жанчына. Што выконвала такую функцыю ў мужчын? Пояс. Не толькі па арнаменце, але і па шырыні, колерах, кутасах людзі раней вызначалі, з якой чалавек мясціны. Так у пашпарце не было патрэбы.

Яшчэ хачу расказаць вам пра славутую беларускую гасціннасць. Развесялю вас звычайнымі беларускімі жартамі. Уявіце, што вы прыйшлі ў госці да сябра і ён прапанаваў вам напоі. Магчыма, вы захочаце адмовіцца. Але позна! Келіх без ножкі ўжо падрыхтаваны. Цяпер вы не можаце ні паставіць яно, ні пакласці, пакуль не вып’еце напой да дна. Інакш белы абрус будзе безнадзейна сапсаваны. Вам такі келіх нічога не нагадвае? Для мяне ён падобны да грузінскага рога.

Як думаеце, чым аддзячыць беларус за вашу ахвяру дзеля выратавання абруса? Зноў прапануе келіх. І нават не пашкадуе вашага адзення, прапанаваўшы двайны кубак. Ён зроблены з дзвюх трубачак. Калі п’еш з такога келіха, напой льецца не толькі ў рот, але і на плячо.

Цяпер ёсць тэрмас, у якім можна перанесці ежу куды заўгодна. Раней яго не было, але дзяўчаты ж неяк насілі абед на поле сваім бацькам. Для гэтага яны прыдумалі спарышы — два гліняныя гаршкі, злепленыя разам, ды яшчэ і з ручкай. У такім посудзе можна было аднесці і першае, і другое.

Каб абараніць дом ад злых духаў, беларусы мелі сакрэт — павук. Гэта выраб з саломы, які звычайна падвешвалі да столі каля акна. Лічылася, што ён можа лавіць і захоўваць у сабе ўсё дрэннае, як павуцінне — мух. Менавіта з гэтай прычыны так вобразна гэты прадмет і назвалі.

Вас ніколі не цікавіла, як раней выбіраліся жаніхі? Не па заможнасці, а па здольнасцях. Будучы муж павінен быў зрабіць верацяно. Тым, хто не прайшоў гэты своеасаблівы тэст, прысвечана прымаўка: «Кузьма-вераценнік разабраў сенцы на тры вераценцы».

Гэта далёка не ўсё, пра што я даведалася ў музеі. Але не магу ж я расказаць вам усё: тады не будзе стымулу туды прыйсці. А прыйсці туды варта. Спадзяюся, сваім аповедам я не толькі дапамагла даведацца нешта новае, але і натхніла на ўласныя пошукі.




Подпіс рэдактара

______________

Паліна Забела, 11 клас, гімназія № 1, Слуцк

Фотаздымкі Аляксандра Галкоўскага, супрацоўніка музея

# Рабінавы ўспамін аб леце

Павольна іду па вуліцы і раптам сумныя думкі перарывае нейкі дзіўны гук. Гэта жоравы. Высока ляцяць яны роўным клінам па пранізліва блакітнаму бяздоннаму небу і дасылаюць апошняе прывітанне з нябёсаў роднай зямлі.

Нешта здрыганулася ў грудзях ад гэтага курлыкання. Я агледзелася вакол — неяк зусім неўпрыкмет надышла восень. Дрэвы і кусты, яшчэ ўчора зялёныя, сёння размаляваны разнастайнымі адценнямі жоўтага, ружовага, вогненнага, барвова-чырвонага. Толькі дзе-нідзе невялікая зялёная пляма. Восень — самы прыгожы час. Калі яшчэ ўбачыш такую разнастайнасць!

Заходжу ў парк. Пад нагамі шамаціць лісце клёна. Колькі яго ўжо апала?! Збіраю кляновае лісце і пляту залаты вянок. Насоўваю яго на галаву і адразу ўяўляю сябе каралевай восені. Мінакі ўсміхаюцца мне, і сапсаваны было настрой адразу паляпшаецца.

І раптам сярод золата я ўбачыла яркае вогнішча. Падыходжу бліжэй — рабінка. Доўга гляджу на маё любімае дрэва. Здаецца, няма за яго прыгажэйшага.

Разныя рабінавыя лісточкі падобныя на лёгкія карункі. Агонь вогнішча ўжо злёгку абпаліў іх бакі, але яшчэ захавалі гэтыя лісточкі сакавітую летнюю зеляніну. А гронкі нібыта ахоплены яркім полымем. Яны нават падаліся мне гарачымі: працягнеш руку, каб сарваць агністую кветку — і апячэшся.

Летам рабінка была зусім непрыкметнай сярод іншых дрэў, але восень падарыла дрэўцу непаўторную, казачную прыгажосць, вылучыла яго, зрабіла не такім, як усе. Хутка астатнія дрэвы страцяць свой яркі ўбор, і толькі рабіна будзе доўга нас радаваць і нагадваць гарачае лета.

Маргарыта Садоўская,
7 клас, СШ № 40, Магілёў

# У чаканні зімы

Зіма ўжо надышла, а снег так і не выпаў. Я сумую па мяккім іскрыстым снезе, па вясёлых гульнях з санкамі на горцы, па лёгкіх прабежках на хуткіх лыжах. Эх, хутчэй бы ўжо пакрылася наваколле белым пуховым пакрывалам.

Сёння я зайшла ў наш гараж, дзе сярод іншага стаіць і мой зімовы інвентар, — мне захацелася праведаць свае санкі. Як яны тут, ці гатовы да зімовых забаў?

Зайшоўшы ў гараж, адразу накіравалася ў куток, дзе прымасціла іх яшчэ з мінулага года. Я падышла да іх і заўважыла, што вяровачка заблыталася за лязо, драўляныя перакладзінкі пакрыліся пылам, і мне падалося нават, што мае санкі гладзяць на мяне з сумам. Яны быццам пыталіся: «Ну, калі ж, калі мы пакоцімся з горкі па белым марозным снезе?» А ў іншым кутку гаража стаялі, прытуліўшыся да сцяны, лыжы. Я падышла і да лыжаў, дакранулася рукою і быццам адчула, як яны ўзрадаваліся. Здаецца, іхнія носікі нават больш закруціліся ўгору — ад гонару за тое, што яны мне вельмі патрэбныя.

Мне захацелася зрабіць што-небудзь вельмі прыемнае для маіх сяброў і памагатых. Я хуценька збегала ў хату, узяла вядро з анучкай і зноў пабегла ў гараж. Вынесла

санкі і лыжы на вуліцу, чысценька вымыла іх ад пылу, насуха выцерла і занесла назад у гараж. А каб санкам і лыжам не было сумна, я паставіла іх разам. І мне здалося, што яны нават пачалі ўсміхацца і размаўляць адзін з адным. А я падышла да іх і паабяцала, што калі выпадзе снег, то мы адразу пойдзем за вёску на горку і будзем катацца.

Я пагладзіла вострыя носікі лыжаў і сказала: «Не сумуйце, хутка мы будзем імчацца па пушыстым снезе, па лясных палянках і любавацца прыгожымі белымі шапкамі на ялінках і хвоях». Затым я папраўіла вяровачку на санках і паабяцала ім, што калі вялікая горка за вёскай пакрыецца снегам, то мы будзем так з імі імчацца, што аж вецер у вушах свістаць будзе. «Вы ў мяне самыя прыгожыя. Не сумуйце. Да сустрэчы на снезе!» — сказала я сваім зімовым сябрам, а яны мне падміргнулі вясёлым бляскам.

Ганна Цімашэнка,
6 клас, Шашкоўская СШ, Стаўбцоўскі раён

Казкі школьнага ранца

# «Справядлівы» мядзведзь

Прыйшлі аднойчы да мядзведзя авечкі і паскардзіліся на ваўкоў.

— Абарані нас, Міхайла Патапыч! Ад ваўкоў ніякага жыцця не стала. Хутка яны ўвесь наш авечы род са свету зжывуць! Штодзень з нас скуры дзяруць!

Выслухаў мядзведзь авечак і пытаецца:

— А па колькі скур дзяруць з вас ваўкі?

— Па адной, Міхайла Патапыч! — забляялі авечкі.

Паціснуў мядзведзь плячыма, лапамі развёў.

— Па адной — гэта яшчэ нічога! — кажа. — Гэта па законе. Вось калі б яны з вас па дзве скуры дралі, тады б я іх пакараў!

— Але ж у кожнай з нас усяго толькі адна скура і ёсць! — плачуць авечкі. — І тую ваўкі дзяруць!

Задумаўся мядзведзь.

— Тады зробім так, — сказаў ён, крыху памаўчаўшы. — Ваўкам я пакідаю права драць з авечак па адной скуры, але ж і авечкам даю такое самае права — драць па адной скуры з саміх ваўкоў. Ну як, справядліва я рассудзіў?

— Справядліва, Міхайла Патапыч! — узрадавана завылі ваўкі. — Вельмі нават справядліва!

А авечкі нічога не сказалі. Уздыхнулі толькі сумна, ды і прэч падаліся ад такой «справядлівасці».

# Як баран ваўка лячыў

Забалеў неяк у ваўка зуб. Прастудзіўся шэры ці з’еў шмат салодкага — невядома, але зуб у яго ныў страшэнна. Спаць і есці воўк перастаў, сядзіць пад сасной ды вые:

— У-у-у, як жа мне цяпер жыць на белым свеце?! У-у-у!

Пачулі лясныя жыхары пра воўчую бяду, пачалі яму розныя парады даваць: заяц — горкай асінавай кары пагрызці, лісіца — настоем рамонка рот паласкаць, мядзведзь — ліпавай гарбаты з мёдам напіцца, вожык — яловай смалы на зуб пакласці, а шчаку сырой глінай абмазаць…

Усё воўк паспрабаваў — нічога не дапамагае!

Прыляцела сарока, паглядзела на ваўка, засакатала:

— Ах, сардэчны! Ах, замучыўся! Ды хіба ж можна так сябе даводзіць?! Даўно б да мяне звярнуўся, я ж замову ад зубнога болю ведаю!

— Ведаеш, дык лячы! — гыркнуў воўк.

Пачала сарока сакатаць сваю замову. Цэлую гадзіну сакатала, а зуб у ваўка толькі мацней разбалеўся.

— Ды ну вас усіх! — завыў воўк. — Ніякай карысці ад вашых парад ды замоў!

— Тады бяжы да барана, — параіла сарока. — Ён табе хворы зуб хуценька выб’е!

«І тое праўда!» — падумаў воўк і пабег на луг, дзе баран пасвіўся.

Убачыў баран ваўка, спалохаўся, а той кажа:

— Не бойся, бо у мяне так зуб баліць, што і есці немагчыма! Таму трэба, каб ты мне гэты хворы зуб выбіў!

— Добра! — згадзіўся баран. — Выбіць зуб — справа няхітрая!

А пра сябе думае:

«Чым менш у ваўка будзе зубоў, тым нам, баранам, лепей жыць будзе!»

Пасадзіў баран ваўка пад дубам, загадаў узняць пысу як мага вышэй, разбегся ды як стукне шэрага рагамі. Ды так моцна, што ўсе зубы ў ваўка павыляталі.

*Эма Трацэўская,*
*7 клас, гімназія, Светлагорск*

Заяўка на Парнас

# Пра звычайных рыцараў і ўяўных герояў

Не, усё ж мае рацыю народ з яго мудрасцю: у кожным жарце доля жарту, астатняе — праўда. Некалькі дзён таму я смяялася з анекдота з часопіса, а сёння сама стала гераіняй гумарыстычнай цытаты. Гучала яна прыкладна так: «Выпрастаць валасы — да дажджу, зрабіць укладку — да ветру, зрабіць добрую ўкладку — да ўрагану, на галаве бардак — сустрэнеш ўсіх знаёмых».

Дзень не задаўся з самай раніцы: да гадзіны ночы я глядзела серыял і праспала. Дробязь — у час вакацый можна валяцца ў ложку да абеду, — а непрыемна. Дапамагла выйсці з царства Марфея мама, патэлефанаваўшы з просьбай. Мне прапаноўвалася забраць заказ з дэкаратыўнай касметыкай (як я наіўна лічыла) у адным з пунктаў выдачы, што непадалёку ад нашага дома. Увогуле, мама і сама б заехала па яго пасля работы, але кантора ўвесь тыдзень працавала да дванаццаці «з тэхнічных прычын». Шчыра кажучы, мне не хацелася нікуды ісці, тым больш

што гадзіннік паказваў дзесяць хвілін на дванаццатую. Але як адмовіш маме у такой нескладанай просьбе.

Літаральна саслізгваючы з ложка — дрымотнасць не знікла, — я прыняла рашэнне абмежавацца кароткім наведваннем ваннага пакоя. Да пункта выдачы — хвілін дваццаць пешшу, значыцца, мне можна выйсці ў 11.30. За час, які застаўся, паспець бы пачысціць зубы!

Такім чынам, нацягнуўшы самую простую вопратку, спехам расчасаўшыся і так нічога не выкарыстаўшы з касметычкі, крочу па заказ. Трэба сказаць, дарма я не жадала ісці: шпацыр, свежае паветра, сонца. Толькі б не...

— Ліза! — усклікае хтосьці, і я не паспяваю завяршыць сваю думку: «Толькі б не сустрэць нікога знаёмага».

Гэта Тая, мая аднакласніца, дзяўчына жудасна балбатлівая і фанабэрыстая. Яна ішла насустрач, але з-за лунання ў аблоках я яе неяк не заўважыла.

— Цудоўна выглядаеш! — з'едліва заўважае аднакласніца.

Я не знаходжу, што адказаць, але ёй, па ўсім відаць, мой адказ не патрэбен. Пасля невялікай паўзы Тая выдае:

— А я з дачы вяртаюся. У Дзімкі Каломцава дзень нараджэння быў, ён шашлыкі арганізоўваў. Добра, пайду — стамілася моцна.

З гэтымі словамі Тая, не развітваючыся, аднаўляе крок. Моцна сумняваюся, што на сваім свяце яе, дзевяцікласніцу і першую школьную пляткарку, хацеў бачыць выпускнік Дзіма. Але тое, што аднакласніца ўсім растрэпле аб маім непрэзентабельным знешнім выглядзе — магу гарантаваць з абсалютнай упэўненасцю.

У пункт выдачы я паспела. Прынамсі, жанчына, якая знаходзілася там і выдавала заказы, пакуль не збіралася зачыняць памяшканне. У пакоі, дзе знаходзіліся пакеты з прадукцыяй, да мяне дайшло, што грошай я не ўзяла. Праўда, мама аб аплаце нічога не казала, яна такое забыць не магла. Пакуль я чакала, калі вынесуць патрэбны мне заказ, паспела знайсці на стэндзе інфармацыю аб тым, што тут выдаюць толькі загадзя аплачаныя тавары. Тым часам жанчына падсунула да стала нейкую скрынку і, пашукаўшы бланк, дала мне распісацца. Што далей?

— А дзе мой заказ? — нясмела пацікавілася я.

— Дык вось, — паказала на скрынку жанчына, — забірай.

— Э-м-м... Выбачайце, мне не далі спіс тавараў. Не маглі б вы выбраць тое, што належыць забраць на прозвішча Марыновіч?

— Я ж кажу, — пачала злавацца жанчына, — скрынка твая! І ўсё, што ў скрынцы — тваё!

— Вы ўпэўнены?

— Дзяўчына, — ужо з раздражненнем працадзіла скрозь зубы выдавальшчыца, — калі вам не патрэбен заказ, я з задавальненнем забяру яго сабе!

Вырашыўшы не працягваць гэты абсурдны дыялог, я паспрабавала падняць скрыню. Ды дзе там! «Касметыка», у склад якой уваходзілі літровыя бутэлькі з кандыцыянерамі, апалосквальнікамі, ачышчальнікамі, гелямі для пліт, ваннаў, кілаграмовы пачак парашку і мяшочак з сапраўднай дэкаратыўкай, важыла, на мой погляд, больш за цэнтнер. Што загадаеце рабіць? Сабраўшыся з думкамі, распіхала туш-памаду-алоўкі і іншую дробязь па кішэнях, а ў пакецік — вялікі, але хлюпкі — паставіла некалькі флаконаў з хіміяй. Скрынка прыкметна палягчэла, але мне не хацелася цягнуць яе ў руках.

— Прабачце, ці не знойдзецца ў вас лішняга пакета? — умольна звярнулася я да жанчыны, якая відавочна збіралася сыходзіць і чакала толькі мяне.

— Вазьмі, — злітавалася выдавальшчыца, — толькі хутчэй давай.

Хуценька пераклаўшы астатнія тавары ў пакет, я вывалілася з крамачкі. Мелася быць доўгая дарога дадому. «Бяры заўсёды ношу па сабе, каб не крахтаць на хадзе», — кажа прыказка. На жаль, мне ношу выбіраць не прыйшлося…

Ледзь я паспела сысці на тратуар, як, нібыта па ўзмаху чароўнай палачкі, перада мной з'явіўся Сцёпа, аднакласнік. Другі год, дарэчы, ён да мяне заляцаецца, але пакуль што без усялякай надзеі на ўзаемнасць.

— Давай дапамагу, — адразу ж кінуўся на дапамогу хлопец і выхапіў у мяне з рук абодва пакеты. — Ого! Дзе ж ты столькі набрала, хацелася б ведаць?

— Не твая справа! — змрочна буркнула я.

Далей мы ішлі моўчкі. Часам, праўда, Сцёпа кідаў недарэчныя кампліменты, але я не звяртала ўвагі і думала пра сваё. І спадзявалася на тое, што Сцёпа давалачэ заказ ажно да пад'езда, але…

— Ведаеш, я на трэніроўку спазняюся, — неяк вінавата прамовіў Сцёпа, калі мы падышлі да аўтобуснага прыпынку. — З радасцю праводзіў бы цябе да самай кватэры, але трэнер у нас вельмі строгі. Так што, выбачай...

Тут пад'ехаў аўтобус.

Трэба ж, а я і не ведала, што Сцёпа займаецца спортам. Гэтая навіна мяне так здзівіла, што я на нейкі час нават забылася пра сваю ношу. Але неўзабаве зноў адчула, што на мне вісіць пуд касметыкі. Праўда, заставалася зусім крыху, метраў пяцьсот, не болей. Я ўжо бачыла ўваходныя дзверы свайго пад'езда, і гэта трохі супакойвала.

Імкнучыся ўявіць, як, нарэшце, зайду ў кватэру, я тупала і глядзела на сваю мэту — пад'езд. І тут...

Не, гэта катастрофа: з пад'езда выйшаў Максім. Прашу заўважыць, ужо трэці аднакласнік на маім шляху! І калі сустрэчы з Таяй і Сцёпам мяне амаль не ўзрушылі, то з'явіцца перад Максімам у такім выглядзе — гэта ж проста жах!

Што рабіць?!? Абысці дом з іншага боку? Гэта не выйсце — лішніх пяці хвілін з пакетамі я не вытрымаю. Прайсці, як ні ў чым не бывала? А што адказаць на прапанову аб дапамозе?

Захапіўшыся ідэямі, я настолькі наблізілася да хлопца, што бегчы было позна. Заставалася адно — прайсці са штучнай усмешкай міма, кіўнуўшы ў адказ на прывітанне. Так бы і зрабіла, але раптам руку пацягнула, я на імгненне страціла каардынацыю і амаль упала на Максіма. Ну вось: мала, што выглядаю сёння проста жахліва, дык яшчэ і няўклюда!

І што б вы думалі! Прыгажун-аднакласнік, здаецца, нават не заўважыў мяне. Ні выбачэнняў, ні прывітання, ні прапановы дапамагчы... Быццам упершыню сустрэліся.

Я была настолькі ўзрушана, што без сіл прысела на лаўку каля пад'езда. Паўстала вострае жаданне перагледзець свае каштоўнасці і расставіць прыярытэты па-новаму. Напрыклад, на карысць няхай самага звычайнага — але ж рыцара, а не ўяўнага героя казкі, дні якой ужо амаль скончыліся...

Сяргей Грудніцкі,
выпускнік СШ № 66, Гомель

* * *

Люблю шырокія даліны
І рэчкі сінія люблю...
Аблокі — нібы брыганціны,
Я іх павольны рух лаўлю.

Над лесам птушкі пралятаюць,
Раўчук да рэчанькі бяжыць.
Яны мне, любыя, спяваюць,
Як хораша на свеце жыць.

Па светлым лесе не баюся
Блукаць я дацямна заўжды.
І веру, што на Беларусі
Не будзе гора і бяды!

Аліна Масюк,
10 клас, СШ № 2, Заслаўе

## Бо гэта восень залатая…

Іду па вуліцы,
А лісце
Павольна з дрэў
На дол злятае.
Гарэза-ветрык
Сцежку чысціць:
На ўскрай сцяжынкі
Іх змятае…

Бо гэта восень залатая,
І нас з табой яна вітае…

Аліна Бык,
7 клас, СШ № 2, Заслаўе

## Восеньскі вершык

Кажуць: «восень залатая»!
Кажуць: «восень рыжая»!
А яна прыйшла такая
Мокрая, капрызная…

Блякнуць фарбы ў агародзе
Скажам восені ў адказ:
— Што здараецца ў прыродзе,
Тое добра і для нас!

Эма Трацэўская,
7 клас, гімназія, Светлагорск

## Непаўторныя імгненні зімы

Зашумела, загудзела
Зімка-завіруха
І да нас скрабецца ў дзверы
Белым снежным пухам.

Наваколле пабялела:
Лес, палі, узгоркі.
Дзеці весела і смела
Паімчалі з горкі.

Хутка свята — Новы год!
Мы яго сустрэнем.
На святочны карагод
Маскі ўсе надзенем.

Андрэй Бець,
8 клас, Дзераўнянская СШ,
Стаўбцоўскі раён

**Уладзімір Мазго**

# І падаў, Падаў, Падаў снег, Ствараючы паданне.

* * *

Толькі лета адышло —
Вось і песня ўся.
Увабраў яе цяпло
Выраю касяк.

Я забыцца не магу
Тыя песні ўсмак.
Стагаваў маю тугу
Зэльвенскі зямляк.

А сягоння:
Дзень ці ноч —
Мне не зразумець.
Толькі звоніць за сцяной
Лісцяная медзь.

Узнялося на камлі
Дрэва завірух…
Першы снег абняў палі —
Ці апошні пух?..

* * *

І сум, і радасць:
У твой кош
Ахвяравала восень
Апошні ліст —
Апошні грош —
Усё што засталося.
І ты,
Расчулены да слёз,
Адчуў сябе багатым,
Нібыта золата прынёс
Асенняе дахаты.

## На беразе Свіслачы

Блукаю на беразе Свіслачы,
Шукаю юнацтва сляды,
Якія так хочацца вызначыць
У сховах лістоў залатых.

Няма інтэрната на Паркавай,
Дый Паркавай болей няма,
Нібыта пад зорнаю аркаю
Засыпала снегам зіма.

Так важна часінай халоднаю
Мінулым цяплом даражыць,
Бо сэрца,
Як дрэўца самотнае,
Што скінула лісце,
Дрыжыць.

## Выпаў снег

Так нечакана выпаў снег
На вёскі, гарады…
Яго захопніцкі набег,
Нібы набег арды.

Зямля патрапіла ў палон
Халоднай белізны
Цяпер ужо да лепшых дзён
Далёкае вясны.

Завеяй здзейснены прымус
Дамогся аднаго:
Бялейшай стала Беларусь
Ад белізны снягоў.

## Снежнае паданне

Шукае вёска Снежная
Для назвы апраўданне —
Завейна-непазбежнае
Зімовае паданне.

Спрабуе за аселіцай
У ветру павучыцца —
І вые зноў мяцеліца
Галоднаю ваўчыцай.

І замінае снегапад
Адрозніць дзень ад ночы:
Заснежаныя вокны хат —
Заплюшчаныя вочы…

Шукала вёска ў белізне
Для назвы апраўданне.
І падаў,
Падаў,
Падаў снег,
Ствараючы паданне.

*Уладзімір Мазго — вядомы беларускі паэт. Ягоныя вершы не толькі вельмі лірычныя, але і на дзіва меладычныя. Нездарма многія з іх пакладзены на музыку і сталі вядомымі песнямі.*

*Між іншым, якраз у «Бярозцы» калісьці былі надрукаваны самыя першыя вершы школьніка Валодзі Мазго.*

## Адзінокая яблыня

Лістота
Светлым сумам адгарыць
І адляціць
За жураўліным клінам.
А яблыкі,
Нібыта снегіры,
Азябнуць
На заснежаных галінах.

## Многа снегу…

«Многа снегу —
Многа хлеба!» —
Разважалі землякі.
Снег ішоў
Да золку з неба,
Каб прыйсці
Ў мае радкі.

Ён вярнуўся
З хлебнай поўні —
Круглай,
Нібы каравай,
І душу
Святлом напоўніў,
Быццам чашу,
Цераз край.

Да вясны
Сагрэта глеба
Пакрывалам трапяткім…
«Многа снегу —
Многа хлеба!» —
Разважаюць землякі.

Топа высунуўся з будкі на шум. І зноў схаваўся: чаго брахаць з-за нейкіх там колаў, што за плотам праехалі. Гаспадара дома няма. Даўно няма…

Паварочаўшыся ў халоднай цеснай будцы, Топа не вытрымаў і вылез на вуліцу. Сумна паглядзеў на гаспадарскі дом. Дзе цябе носіць, Ягорыч? Раней у такі мароз не дазваляў ён Топу ў халоднай будцы начаваць. Дадому браў. Сцяліў у кухні старое паліто, побач ставіў міску з учарашнім супам. Шкадаваў.

А хто цяпер пашкадуе?

З восені чакаў Топа гаспадара. З таго хвалюючага і незразумелага дня, калі ў доме сабралася амаль што ўся вёска. Мітусіліся занадта, шмат курылі. Нязвыкла ціха гутарылі між сабой. Топу сусед яшчэ з раніцы ў хлеўчыку зачыніў:

— Сядзі і не рыпайся, небарака! — сказаў ён пры гэтым. — Не час цяпер на людзей брахаць. Не час…

І костачку ў шчыліну прасунуў. Свежую, мазгавую, нават з кавалачкамі мяса. На цэлы дзень хапіла задавальнення, шкада толькі, што раздзяліць гэтую радасць не было с кім. Было неспакойна: чужыя людзі па двары бадзяюцца. Бяруць, што пад руку трапіць, у хату без груку заходзяць. Непарадак, тут не да прысмакаў. А гаспадара не відаць… Цікава, што ён пра ўсё гэта думае?

А потым госці нязваныя зусім сорам страцілі: вынеслі з хаты штосьці вялізнае, незразумелае. Пад'ехаў грузавік, гэтае «штосьці» ў кузаў адкрыты прыняў. Яловыя лапкі і кветкі людзі кідалі, потым машына кранулася з месца і нязвыкла ціха паехала. Мужчыны з непакрытымі галовамі за ёй рушылі, бабы разам галасіць пачалі. А сусед у шчыліну катлету прасунуў. Сапраўдную!

— Трымайся, брат, — прахрыпеў пры гэтым, — сірата хвастатая! Сам сабе цяпер гаспадар. Жыві, як ведаеш…

Замкнуў дзверы хаты і паклыпаў за астатнімі.

«Сірата хвастатая» — што гэта за мянушка такая? Ну, з хвастом усё большменш зразумела: сімпатычны ў Топы хвост, пухнаты. Ды і сам Топа — сімпацяга, кожны, хто да гаспадара прыходзіў, так хацеў пагладзіць. А вось «сірата» — слова незнаёмае. Можа, пакрыўдзіць хацеў сусед, а можа, наадварот.

А трымацца навошта? Цёпла, сытна. І сварыцца ніхто не будзе — калі ў хлеўчуку зачынілі, то і вартаўнік з Топы цяпер ніякі. Вось толькі трывожна.

Паварочаўся Топа і ўлёгся пад самымі дзвярыма. Костачку збоку прыладзіў — так больш надзейна. Задрамаў. І нават праснілася яму штосьці прыемнае, вось толькі спаў глыбока, не паспеў сон разглядзець як след. А прачнуўся — забыўся адразу.

Забыўся і забыўся, тут бы неяк з хлеўчука выбрацца. Надакучыла ў няволі сядзець, пабегаць хочацца. Ды і двор вартаваць трэба.

Тыцнуўся носам у дзверы — яны і падаліся. Дзіўна, нібыта і замыкаў сусед. Няўжо праспаў? Топа асцярожна вылез з хлеўчука, скоса на дом паглядзеў: раптам гаспадар выйдзе! Будзе тады Топу ад яго — што ж ты за вартаўнік, калі так разаспаўся?!

Але гаспадар з дома не выйшаў. І не прынёс паесці, і не прыкрыкнуў для парадку, і на ланцуг не пасадзіў. Напэўна, паехаў Ягорыч кудысьці. Можа, у горад да пляменніка. А магчыма, затрымаўся ў кагосьці знаёмага. Такое бывала…

А Топа не маленькі ўжо. Хоць ростам і не выйшаў. Ды тут як для каго: невялічкі, але ласкавы і пухнаты. Дзецям падабаецца, жанчынам таксама.

Справу сваю не горш за любую аўчарку ведае. Абышоў дом, потым двор абабег уздоўж плота. Да курэй зазірнуў — спяць, здаецца. Вось толькі чамусьці дзверцы ў куратнік не зачынены, прыйдзецца ночку ўсю вушкі на макаўцы трымаць. Ну, не ўпершыню, справіцца. А больш у гаспадарцы няма нікога. Пасля смерці бабы Ніны Ягорыч кароўку суседцы падараваў. За два літры малака ў дзень: маўляў, самому не ўправіцца, ды і малака столькі, колькі дае, не выпіць.

Суседка малако прыносіла спраўна. Ды і Топу тое-сёе перападала ад яе міласці. То бульбы місачка, то костачка. Костачка! Ён успомніў пра суседскі падарунак, заскочыў зноў у хляўчук. На месцы ягоны скарб! А за кампанію з такой смакатой і ноч весялей пройдзе.

Прыладзіўшыся каля куратніка, Топа задрамаў. Бо нікуды не падзенуцца ні куры, ні студня, ні колы каля плота. Сон у Топы чуйны, чужы крок здалёк распазнае.

Пад раніцу давялося залезці ў будку — дождж пачаўся. А Ягорыч так і не вярнуўся. Дзесьці ў абед прыйшоў сусед. Пагладзіў Топу па галаве, прынёс міску супу. Слоў незразумелых нагаварыў. Шкадаваў нібыта. А чаго Топу шкадаваць? Ён пры сядзібе, пры гаспадары вельмі нават няблага жыве.

Так прайшла восень. Ягорыч не аб'явіўся, а курэй забрала суседка. Калі забірала, Топа вельмі хваляваўся і нават брахаў на суседку, але нядоўга. Няма перад кім старацца, а цётка хоць і шкодная, ды з двара ж не гоніць. Праўда, карміць перастала.

— Сам цяпер шукай, не маленькі! — сказала пры гэтым. — Сам сабе гаспадар! Навучышся здабываць ежу — перажывеш зіму. А не перажывеш — сам вінаваты будзеш…

Цікава, чаму гэта ён «сам сабе гаспадар»? А як жа Ягорыч? Хоць за надзённымі праблемамі ўсё радзей Топа Ягорыча ўспамінаў. Тут бы дзень перажыць ды ноч хоць неяк перакантавацца. Зноў-такі, хлябца кавалачак дзе-небудзь перахапіць. Або курыны хрыбецік з чужой міскі сцягнуць — жыць жа неяк трэба. Гэта коткам добра. Барсіку — поўная каморка мышэй. Усю ноч іх там выхоўвае, а ранкам сыта жмурыцца на прызбе. Не каб падзяліцца. Цікава толькі, ці еў бы Топа мышаціну? З галадухі — чаму б і не…



Ды і будка амаль развальваецца: і вецер свабодна разгульвае, і дажджавая вада зацякае. Добра, што хляўчук так і не зачынілі. Топа туды і перабраўся. Ягорычаў стары пінжак з кастра сцягнуў — выдатнае месца для адпачынку.

Усё б нічога, ды голад адольвае. І холад — зіма наступае сабачку на хвост хрумсткімі марознымі начамі, да звону выстуджвае хляўчук. Нармальныя гаспадары сваіх хвастатых вартаўнікоў у сенцы ці нават у хаты перавялі. Бліжэй да грубак. А разам з суседзямі зніклі і курыныя хрыбты, і хлебныя скарынкі. І міскі зніклі, і няма дзе Топу чым разжыцца. Хоць лапы з голаду працягвай.

І перабраўся Топа ў вёску. Там начаваў пад лазняй, якую для прафілактыкі працеплівалі праз дзень. А па суботах і нядзелях — добранька качагарылі: людзі з бліжэйшых населеных пунктаў ехалі мыцца. Збіраліся кампаніямі. Парыліся, выскоквалі ў снег, песні спявалі. Зноўку парыліся. Дадому збіраліся вясёлыя. І шчодрыя — Топу даставаліся і костачкі, і каўбасныя абрэзкі, і хлебныя скарынкі, якія пахлі салам.



Тут толькі паспявай паварочвацца. Адну костачку пад сцяну, другую ў дровы, трэцюю — сабе на зубок. Каўбаскі закапаць у вугальным пыле, каб ні адна жывая душа не здагадалася. На дзень-другі ежы хапала, але потым вяртаўся голад. І адзінота. Вось чаго не мог вынесці, небарака! Ні слова, ні паўслова, ні нават вокрыку. Ні адна чалавечая рука яго па макаўцы не пагладзіць, за вушкам не пачэша. Ніхто за сабой не пакліча.



Прапаў у Топы сэнс жыцця. Раз і назаўсёды прапаў. Дакладней, да вяртання Ягорыча. І дзе яго нялёгкая носіць? Ну, пачакай, вось вернешся… Што будзе тады, пасля вяртання, — гэта Топа не асабліва ўяўляў. Але падазраваў, што адразу забудзецца на ўсе крыўды. Кінецца да гаспадара, пачне скакаць, лашчыцца, рукі лізаць…



А потым лазеншчык праспаў мароз, кацёл не вытрымаў і лопнуў. Баню зачынілі да вясны, а Топу прагналі. Прыйшлося зноў у свой хляўчук перабірацца.



Адну ночку толькі ён там і пратрымаўся. Адолелі мароз і пацукі. А можа, тхары. З усіх шчылін у хляўчук лезлі ў надзеі Топу застаць, калі ён спіць, лапы да крыві пакусалі. І хоць шмат іх было, у адкрытую нападаць не рашаліся, чакалі, калі сабака замерзне або засне. А спаць вельмі хацелася. Знясілеў Топа. Ад голаду, холаду і напружання.

Зразумеў, што канец блізка. І пацягнула да людзей. Суседзі не прынялі: у саміх тры сабакі, куды ж чацвёртага? І Топа зноўку ў вёску накіраваўся. Дзе б знайсці добрую душу? Хай не так сытна, як у Ягорыча, але жылося б неяк. І елася б. І пілося. Зараз бы і мышы за мілую душу пайшлі, ды чамусьці прапалі мышы. Разам з Барсікам прапалі. Можа, перавяліся ўсе да адной. І не дзіва — такія маразы…





Сноўдаўся небарака ад двара да двара. Жаласліва скавытаў, паглядваючы на чужыя вокны. Віляў хвастом пры сустрэчах з людзьмі. У вочы кожнаму заглядваў: падайце, маўляў, хоць які кавалачак ядомы — мы непераборлівыя, за ўсё аддзячым. І паслужыць гатовыя.

Ды толькі ніхто не звяртаў увагі на Топавы рэверансы. У лепшым выпадку. У горшым — гыркалі ў адказ, не горш за сабаку. А то і руку ўзнімалі. Хоць часцей проста нагой тупалі. Маўляў, прэч, бо кепска будзе!

Топа падціскаў хвосцік, выказваючы пакорлівасць і раскаянне, і адбягаў на пэўную адлегласць. Адтуль зноўку хвастом павільваў — а раптам успомніць чалавек, што добрая ў яго душа. Ды неяк не ўспаміналася. За ўвесь тыдзень толькі скарыначку хлеба хлопчык з акна выкінуў. Ды пашчасціла ў разявакі гаспадарскага барбоса хрыбет курыны сцягнуць.

«Ну, чаму ж так? — не мог зразумець Топа. — Чаму добры вартавы сабака нікому не патрэбен? А мясцовыя сабакі ўсе да аднаго злыя, хвост адгрызуць. Або галаву нават…»

Ён паспеў зганяць на цэнтральную сядзібу. Дарогу добра ведаў — за Ягорычавымі коламі не аднойчы туды бегаў. Здавалася б, тут і двароў больш, і крама, і школа. Ды той самы голад. І страх. Толькі паспявай паварочвацца. То ботам пхнуць, то колам імкнуцца па хвасце праехаць. І даўся ж ім Топаў хвост!

Паспрабаваў за дзецьмі бегаць, але і тут пяцьдзясят на пяцьдзясят: то кавалачак піражка адшкадуюць, то снежкай у вуха залепяць. Не ведаеш, чаго і чакаць. Заўважыў неяк, што побач са школай некалькі такіх жа небарак круціцца,

да іх прыстроіўся. Весела. І не так боязна. Ды прымалі мясцовыя сабакі чужынца, пакуль «сабачым вяселлем» бегалі. А потым загырчэлі, накінуліся, ледзь не загрызлі. І школа чамусьці без дзяцей засталася. Прыйшлося зноўку дадому вяртацца.

А там двор па самы плот снегам занесла. І ні адзінага следу. Так і не з'явіўся Ягорыч. І суседзі Топу не зарадаваліся, кійком з-за плота пагразілі. Топа на грубасць нарывацца не хацеў, зноў падаўся на цэнтральную сядзібу. Аблюбаваў дзіцячы садок. Прагнаў старога дварняка, што без мэты бадзяўся па двары. Прыходзілася змагацца за жыццё. Любымі спосабамі. Прыглядзеў сабе месцейка непадалёк ад дзвярэй, што вялі ў кухню. Два разы праводзіў павcovaрыху. Да паветкі і назад.

— Прыгожанькі які! — звярнула, нарэшце, павcovaрыха на Топу ўвагу. — З гарадскіх, пэўна? І чаго ў вёску прыбіўся?

Топа махаў хвосцікам, згаджаючыся на любыя кампліменты. Відаць было, што павarыха добрая. І шчодрая. Бо ўжо на другім заходзе вынесла яму супу ў пластыкавай пасудзіне. Не самы зручны посуд, затое з ежай. І смачнай. А галоўнае, цёплай. Топу падалося, што цёплае ён еў толькі ў мінулым жыцці.

— Галодны які! — расчульвалася павarыха. — І пагрэцца няма дзе. У садок не пушчу, не прасіся. Калі толькі ў паветцы цябе пасяліць. Май на ўвазе: да сябе не вазьму — там і так двое. Куды ж яшчэ трэцяга? Супу і тут атрымаеш, а калі пашанцуе, знайду табе гаспадара. Тут у нас шмат старых без сабак мардуюцца. Яны, калі шчыра, і не патрэбны ім асабліва — але ж тужліва без жывой душы. Ці, можа, у каго з маладых бацькоў спытаць. За папытанне сварыцца не будуць. А не атрымаецца — выбачай.

Топа верыў, што атрымаецца.

Прыстроіўся ў паветцы. Сцягнуў у куток лахманы — чым не подсцілка? Халаднавата, праўда, затое спакойна. І не пакрыўдзіць ніхто: у паветку двое толькі і заходзілі: качагар па дровы ды павarыха Сцяпанаўна. Апошняя з абавязковым гасцінцам. То супу прынясе, то шкляначку ад смятаны — вылізваць…

Але ж памятаў Топа — часова тут яго пасялілі. Пакуль шукае Сцяпанаўна новага гаспадара. А раптам не знойдзе? У чаканні Топа пераміналўся з нагі на нагу. Чакаў і грэўся адначасова. Так хацелася прабегчы ўздоўж вуліцы, на хаду вызваляючыся ад надакучлівага холаду. І калі ж яна скончыцца, зіма гэтая?!

Дні цягнуліся за днямі, вымерзлыя да хрусту. Доўгія ночы рыпелі рэдкімі чужымі крокамі за брамкай. Здавалася, не засталося на зямлі нічога, акрамя снегу і лёду. Каб не акалець ад холаду, Топа кожную ноч старанна даглядаў уласную поўсць: згрызаў наліплыя за дзень камякі снегу, вышукваў блох, вычэсваў лапай каўтуны. Хоць які, ды занятак. І потым, не бегаць жа па вуліцах калматым і неахайным. Каму гэта можа спадабацца? А Топу вельмі хацелася спадабацца будучаму гаспадару.

Сцяпанаўна слова сваё старалася стрымаць: некалькі разоў прыводзіла кагосьці. Людзі ўважліва разглядвалі Топу. Ацэньвалі сваімі меркамі. Расчаравана разводзілі рукамі: то ростам не выйшаў, то злосці малавата, то ежы шмат спажывае. Гэта ён, Топа, шмат спажывае ежы?!

— Не наш чалавек, — суцяшала Сцяпанаўна Топу пасля кожнай з такіх няўдалых «агледзін». — Будзем далей шукаць.







Гарачая шурпатая далонь жанчыны пяшчотна пагладжвала худы сабачы бок, і ад таго Топу рабілася так салодка і слёзна, хоць плач. Ён скавытаў ціхенька, прыціскаючыся да прамерзлых валёнак паварыхі. Заплюшчваў вочы шчасліва: эх, вось бы так да канца жыцця стаяць! І не трэба ніякага гаспадара.

У адзін далёка не цудоўны дзень ад снегу праваліўся ў паветкі дах. Прыбегла загадчыца. Доўга ахкала і вохкала, шукала вінаватых. Потым заўважыла Топу і адразу ж прагнала з двара.

— Яшчэ раз убачу гэтую псіну — пазвальняю ўсіх да аднаго! У чорт ведае што ператварылі дзіцячую ўстанову!

Топа не спрачаўся, выбег на вуліцу. Двое сутак бадзяўся, потым вярнуўся. Праз дзірку ў плоце падабраўся да кухні. Брахануў разочак-другі. Нагадаў пра сябе.

І амаль адразу Сцяпанаўна вынесла кавалак сасіскі.

— Вярнуўся, сардэчны, а я думала, прапаў зусім. На пакуль гэта, зараз суп згатуецца, накармлю. Пасядзі пакуль каля плота. А ў паветку нельга, там замок вісіць. Ключы ў начальніцы нашай.

Топа апусціў галаву: зразумеў, што ягонаму садковаму жыццю канец надышоў. Шкада, што ўсё добрае хутка мінае. Не тое, што зіма. Гэтай напасці, здаецца, канца не будзе. І што рабіць цяпер, куды падацца? Чалавек патрэбен. Свой. Добра. Шчодры. Ласкавы. Як Сцяпанаўна. Або нават лепшы. Калі такія бываюць. Эх, мары, мары! Тут бы проста чалавека. А далей — як пойдзе…

Ход невясёлых думак перабіў пах супу. Топа павярнуў галаву ў бок кухні: Сцяпанаўна несла яму абед. Ну чым не гаспадыня!

*Ліна Багданава добра вядомая чытачам «Бярозкі», бо менавіта яна вядзе ў нашым часопісе пастаянную рубрыку «Сітуацыя плюс». Новы твор цікавай аўтаркі, спадзяёмся, не пакіне вас абыякавымі.*

У наступныя дні таксама быў суп. І кавалачкі сасісак, якія не даелі дзеткі. І для начлегу старая разваленая сцірта саломы. І ледзяны месяц зверху, і шабуршэнне пацукоў знізу. І воўчае выццё не так далёка. І поўная безнадзейнасць.

І нечаканая лютаўская адліга, набліжэнне якой Топа адчуў яшчэ з вечара. Пагойсаў па вуліцах, выклікаючы злосць і зайздрасць у гаспадарскіх сабак. Збегаў на стайню, потым майстэрні наведаў. Так, на ўсялякі выпадак. Вярнуўся да садка ў канцы змены.

А там бацькі разбіралі дзетак. Садзілі на санкі, везлі хто куды. Дзеткі, захутаныя па самыя вочкі ў цёплыя хусткі, смешна варушылі пухнатымі вуснамі, круглілі і без таго круглыя вачаняты. Тыкалі рукавічкамі ў бок Топы:

— Вой, сабацка!

— Мама, дай ме кіцю!

— Хацю-хацю-хацю!

Бацькі адмахваліся: сваіх, маўляў, хапае. Мала якая гаспадарка абыходзілася без вартаўніка. А тут — шчанюк не шчанюк, сабака не сабака. Ніякай карысці. Хіба толькі дзіцятка пацешыць, дык для гэтага і іншыя забавы знойдуцца…

Дарэмна Топа хвосцікам махаў і то адным, то другім бокам да дзетак паварочваўся. Нічога не дапамагло. Праўда, два абаранкі перапалі. Ды і Сцяпанаўна,

калі дадому адыходзіла, кавалак булкі з маслам дала. Гэта добра, але што булка, калі дадому хочацца.

Ну, праводзіў яе да павароту. Назад вярнуўся. Сеў каля брамкі. Чым бы карысным заняцца, пакуль не так холадна?

— Гэй, ты чаго тут? — на ганак выйшла загадчыца. — А ну, кыш!

— Бааа, бабуля! — побач з загадчыцай намаляваўся чырванашчокі жэўжык у стракатым камбінезончыку. — Не трэба кыш! Сабачка харошы, прыгожы. Пухнаценькі! Давай сабе возьмем. Будзем у санкі запрагаць. Сасіскамі карміць.

На апошніх словах Топа з надзеяй натапырыў вушкі: сасіскі ён паважаў.

— Яшчэ што?! — абурылася загадчыца (яна ж — бабуля). — Нам толькі сабакі дома не хапала! У людзей хоць двары, а ў нас два пакоі на другім паверсе.

— Бааа, — не спыняўся маленькі капрызуля, — давай возьмем! Вымыем і да мяне ў ложак. Я гэтага сабачку абдымаць буду, цалаваць…



І з гэтымі словамі малы кінуўся ў бок Топы.

— Максік! — ласкава зашчабятала загадчыца, спрытна перахопліваючы ўнука на паўдарозе. — Ды ну яго, сабачку гэтага! Хадзем, я табе машынку куплю. Заводную, з пражэктарам. Ну, памятаеш, яна ўчора табе вельмі спадабалася?



— З пажэкарам? — хлопчык недаверліва паглядзеў на бабулю. — Праўда, купіш?

— Ну, калі ж я табе маніла?



Топа зразумеў, што супраць пражэктара не пацягне. Ну, не выгарала, няма чаго дарэмна і хвастом матляць.

Загадчыца з унукам выйшлі на вуліцу, потым зноў спыніліся і загадчыца замкнула брамку на ключ. Задумліва паглядзела на Топу.

— Пасядзі тут, калі ўжо прыйшоў. Павартуй. Вартаўнік хутка прыйсці павінен. Здасі вахту. Ну, чаму глядзіш пакрыўджана? Унук у мяне часова, потым зноў адна жыць буду. На рабоце цэлы дзень, куды цябе падзець? Зразумеў? Акалічнасці, а з імі не паспрачаешся…

Узяла малога за руку і павяла да крамы.

А Топа засумаваў. Ну, чаму ўсё так няўдала складваецца? І Ягорыч прапаў, і нікому ягоная сабачая прыгажосць не ўпадабаецца!



Уздыхнуў Топа (у думках, вядома ж), прайшоўся ўздоўж плота. Раз. Другі. Брахнуў на калёсы, што праехалі міма. Вартаваць дык вартаваць. Нічым мы не горшыя за іншых сабак. А раптам ацэніць загадчыца ягоныя здольнасці? І дазволіць пры садку застацца. А там і да вясны нядоўга. Пераживём!

Разышоўся на фоне прыемных перспектыў. Прагнаў з тэрыторыі старога ката, пратаптаў сцяжынку да студні. Задумаўся: а які б подзвіг яшчэ здзейсніць? Хацелася чагосьці грандыёзнага. Тапельца выратаваць або на ваўка кінуцца. Хай убачаць, які ён смелы, адчайны!

Ды вось толькі рэчка амаль да самага дна прамерзла. І захочаш у ёй тануць — не атрымаецца. Ды і ваўкі блізка да паселішча не падыходзяць.

Але подзвіг атрымаўся!

Усё пачалося з вартаўніка, дакладней, з ягонай адсутнасці. Не з'явіўся вартаўнік на дзяжурства: мо захварэў. Топа зразумеў, што дзяжурыць прыйдзецца аднаму, калі міма пранеслася машына старшыні. Той заўсёды пазней за іншых дадому вяртаўся.



Топа спачатку занепакоіўся: адказнасць жа. А потым асвоіўся. Нічога асаблівага: сноўдайся сабе ад брамкі да брамкі, брашы час ад часу. Чакай, калі першыя агні ў вокнах запаляцца. Ну, на ўсялякі непарадак рэагуй адпаведна. І ўся справа…



А потым надышла ноч. Круглы месяц абліў срэбраным сваім святлом бярозавыя косы з аднаго боку, потым з процілеглага. Завіс над бярэзнікам на нейкі час, потым схаваўся ў аблачынку. Прыгожа! Толькі вось мароз цісне. Хоць ты кідай свой пост і бяжы да бліжэйшай сцірты грэцца.

Топа амаль ўжо на тое рашыўся, як пачуў з боку склада нейкія незразумелыя гукі, чыесьці прыглушаныя галасы. Насцярожыўся, натапырыў вушкі. Прыслухаўся. Так і ёсць, нейкія людзі каля склада. І дзверы прыадчынены. Непарадак!

Кінуўся ў той бок, забрахаў. Разумеючы, што аднаму не справіцца, выбег на вуліцу. Зноў забрахаў. Гучна, што ёсць моцы. Маўляў, сюды, людзі, сюды! Потым зноў кінуўся да чужынцаў, гыркаючы і паказваючы вострыя зубкі.

Адзін з чужынцаў кінуўся да Топы з нейкай жалязякай:

— Змоўч, кыбздох паганы! А не — прыб'ю!

Ага, так яму Топа і даўся! Ці ж упершыню ад людской злосці ўхіляцца. Справімся!

І справіўся. Тым больш, што людзі сюды ўжо беглі. Хто з ліхтаром, хто з сякерай. А хто і з віламі наперавес…

— Што здарылася?!

— Чаму разбрахаўся так?!

Але хутка разабраліся што да чаго. Два злодзеі каля склада, дзверы насцеж — чаму б сабачку не брахаць! Затрымалі злачынцаў, выклікалі загадчыцу.

Так Топа героем зрабіўся. Паёк атрымаў. І ранейшае месца ў паветцы. А праз два дні загадчыца Топу да сябе ўзяла. Унук угаварыў.

Да самой вясны жыў Топа, нібыта ў рай трапіўшы: у ласцы, цяпле і сытасці. Праўда, у ложак да малога яго не пусцілі, але палавічок у пярэдняй выдзелілі індывідуальны. І сумаваць не прыходзілася: па вечарах яны з Максікам у розныя гульні гулялі, з раніцы Топа адпраўляўся ў садок разам з новымі гаспадарамі. Там першай справай правяраў тэрыторыю: аглядваў, абнюхваў, сачыў за парадкам. Атрымліваў ад Сцяпанаўны законную міску супу.

Потым выбягаў на вуліцу, дражніў мясцовых сабак, якім ад будак ланцуг не дазваляў аддаляцца. Вяртаўся, пабрэхваў на мінакоў: так, без асаблівай злосці. Праводзіў дзяцей з бацькамі. Чакаў шчаслівыя хвіліны сустрэчы з Максікам і ягонай бабуляй. І ўзрадавана кружыў вакол іх на зваротным шляху.

Разумеў, што нядоўга ідылія будзе цягнуцца. Але спадзяваўся на лепшае. Прыйдзе вясна — і палова праблем сама па сабе вырашыцца. А там, глядзіш, і Ягорыч вернецца. Або Сцяпанаўна да сябе забярэ — у яе таксама ўнукі ёсць. Або загадчыца прывыкне, пашкадуе, а можа, нават і палюбіць. І пакіне пры сабе пасля ад'езду ўнука. Ці хоць пры садку. І тое хлеб. Ды не, які там хлеб, вышэй бяры: цэлая сасіска выходзіць!

Вось табе і сірата. Нарасхват! Калі, вядома, вельмі пастарацца.

Пераклад з рускай мовы Генадзя Аўласенкі

# Бярозка



*Штомесячны грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс (для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту)*
***Выдаецца са снежня 1924 года***
***Узнагароджаны ордэнам «Знак Пашаны»***

Заснавальнік
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»

В.а. галоўнага рэдактара
Святлана Дзмітрыеўна Воцінава



Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, г. Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by
Тэл./факс: 8 (017) 287-19-19.

Паштовы адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220005, г. Мінск,
пр. Незалежнасці, 39.
bjarozka@zviazda.by
http://www.maladost.lim.by/berezka
Тэл.: 8 (017) 284-85-24;
8 (017) 284-41-88.

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 210 ад 23.04.2013, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Аляксандр Мікалаевіч Карлюкевіч

Намеснік галоўнага рэдактара:
Г. П. Аўласенка
Рэдактары:
К. В. Захарэвіч, Ю. С. Ваўчок
Мастацкі рэдактар:
А. У. Галота
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
Г. К. Кірэенка
Камп'ютарны набор:
А. Г. Кахноўская
Стылістычны рэдактар:
А. І. Саламевіч

Падпісана да друку 10.11.2016 г.
Фармат 60x84 1/8. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 7,44. Ул.-выд. арк. 6,99.
Тыраж 779 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«БудМедыяПраект»
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь





Клуб сяброў часопіса (які фарміруецца з кожным нумарам і складаецца з школ аўтараў, а таксама школ з найбольшай колькасцю падпісчыкаў) прадстаўлены на сайце.

На першай старонцы вокладкі змешчана карціна Аляўціны Башкатавай.

## Пытанні для знаходлівых

**1.** З якога слова з дзесяці літар можна выдаліць адну «літару», каб засталося толькі чатыры літары?

**2.** Куды ідзе чорны кот, які пераходзіць дарогу?

**3.** Што можа зрабіцца большым, калі яго перавярнуць дагары нагамі?

**4.** Што кідаюць у каструлю перад тым, як што-небудзь у яе пакласці?






Ідуць два хлопчыкі, размаўляюць. Раптам убачылі вожыка.

— Цікава, чым харчуюцца вожыкі? — спытаў адзін.

— Напэўна, кактусамі, — крыху падумаўшы, адказаў другі.

**Настаўніца пытаецца ў вучня:**

**— Калі ў адной кішэні курткі ў цябе дзесяць рублёў, а ў другой — дваццаць, то што гэта азначае?**

**— Што я апрануў чужую куртку, — уздыхнуўшы, адказвае вучань.**

— Вы гаворыце па-англійску?

— Толькі са слоўнікам.

— А з людзьмі што, саромеецеся?

**— Цішэй! — кажа настаўнік. — Каб было чутна, як муха праляціць!**

**Вучні змаўкаюць, доўга маўчаць, нарэшце адзін пытаецца:**

**— Іван Пятровіч, ну і калі ж вы гэтую муху выпусціце?**



Адказы на пытанні для знаходлівых:

1. Слова «літаральна». Выдаляецца слова «літара», застаюцца 4 літары: «л», «ь», «н», «а».
2. На другі бок дарогі.
3. Узровень пяску ў пясочным гадзінніку.
4. Погляд.

# Што такое **Бярозка?**

## Інтэлектуальны глянец для падлеткаў

Падпісныя індэксы:
74822 — індывідуальны
74888 — індывідуальны льготны для членаў БРПА
748222 — ведамасны
74879 — ведамасны льготны для ўстаноў адукацыі і культуры

ISSN 0320-7579




